# наша свабода

№1(88) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

5 СТУДЗЕНЯ 2001 года ПЯТНІЦА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by
http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ





## УВАГА! КОНКУРС!

Рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА абвяшчае конкурс ***дзіцячага палітычнага малюнка.*** Конкурс праводзіцца па ініцыятыве вядомага палітыка Андрэя Саннікава. Узрост удзельнікаў конкурсу – да 14 гадоў.

Каляровыя і чорна-белыя малюнкі памерам не болей 21х30 сантыметраў (фармат А4) дасылайце на адрас рэдакцыі:
НАША СВАБОДА
п/с 103
220123 Мінск
БЕЛАРУСЬ

Аўтары самых цікавых малюнкаў будуць узнагароджаныя, а іхнія працы з'явяцца на старонках нашай газеты.

## Вячеслав Хоронеко. Хроника рекорда

В первые секунды Нового года, нового века, на пороге третьего тысячелетия наш герой в последний раз взметнул над головой тяжеленный пивной бочонок и мир еще раз осознал, насколько беспредельны возможности человека. Хотя лично для себя он понял это лет десять назад, когда впервые выступил в экстремальном шоу и установил свой первый из почти сотни необычных рекордов по поднятию тяжестей, которые никто так и не побил. Последний, самый значимый для него и тяжелый наверняка останется непревзойденным: за 36 часов минчанин поднял на вытянутые руки 40-килограммовый кег с пивом 4 тысячи 221 раз с итоговой фантастической суммой в 168 тонн 840 килограммов! А ведь за эти полтора суток могло случиться всякое. ▶

*Окончание на стр.15*




## ВІНШУЕМ З КАЛЯДАМІ



# Новы год – на рынках пуста

**Рыгор БУЯН**

Да 90% прыватных прадпрымальнікаў (звыш 150 тысячаў чалавек разам з наёмнымі работнікамі) ахапіў агульнарэспубліканскі страйк, што праходзіць з 1 па 5 студзеня.

Не працуюць рэчавыя рынкі ва ўсіх абласных гарадах і ў большасці райцэнтраў Беларусі. У адрозненне ад Мінска, дзе страйк працягнуўся толькі першыя пяць дзён студзеня, прадпрымальнікі ў рэгіёнах настроены больш рашуча: у Пінску, да прыкладу, страйк працягнецца ажно два тыдні.

«Чаўнакі» пратэстуюць супраць эканамічнага ўціску ўладаў і за рэальныя перамовы кіраўніцтва Беларусі з прадпрымальнікамі дзеля змякчэння рэжыму прадпрымальніцкай дзейнасці. Прычым, як заяўляюць у стачкаме прадпрымальнікаў, кароткатэрміновыя страйкі будуць працягвацца да тае пары, пакуль урад не пачне выконваць іхнія патрабаванні. А патрабаванні «чаўнакоў» да ўрада застаюцца тымі ж, што былі сфармуляваныя на прадпрымальніцкім мітынгу ў Мінску 18 снежня. Гэта – адмена мытнага афармлення тавараў, выробленых у трэціх краінах і завезеных на тэрыторыю Беларусі з Расіі; скасаванне неабгрунтавана высокіх штрафаў па фармальных і надуманых прыкметах; змяншэнне арэнднай платы за гандлёвыя месцы да ўзроўню кошту плошчы ў дзяржаўнай краме; недапушчэнне павышэння фіксаваных ставак падатку для індывідуальных прадпрымальнікаў па праекце Дэкрэта «Аб адзіным падатку» (па звестках кіраўніцтва страйкама, гэты праект нібыта адкліканы на дапрацоўку); пачатак рэальныя перамоваў з прадпрымальнікамі ды адстаўка міністра юстыцыі Генадзя Варанцова за тое, што цягам паўгода не рэгіструецца Беларускі прафсаюз прадпрымальнікаў (БПП).

Больш за тое, прадпрымальнікі настойваюць на тым, каб давесці да траўня 2001 года сярэдні заробак і пенсіі да 100 долараў ЗША на месяц, а студэнцкія стыпендыі – да 60 долараў ЗША.

Як і раней, кіраўніцтва прадпрымальніцкага руху заяўляе, што пры невыкананні высунутых вымогаў індывідуальныя прадпрымальнікі будуць праводзіць бестэрміновы страйк. ■



**Наступны нумар газеты выйдзе ў панядзелак, 8 студзеня 2001 года**

## НАВІНЫ

■ **6 снежня – апошні дзень, калі прэм'ер-міністр Уладзімір Ярмошын павінен даць адказ на дасланы ва ўрад зварот беларускіх педагогаў.** Нагадаем, што пад патрабаваннямі падвысіць заробак падпісалася звыш 170 тысячаў настаўнікаў. Яны вымагалі, як тое прадугледжвае Закон аб адукацыі, прывязкі сярэдняй настаўніцкай зарплаты да той, што ёсць у прамысловасці. Калі ўрад праігнаруе справядлівыя патрабаванні, настаўнікі гатовыя пайсці на страйк

■ **З 1 студзеня ў Беларусі на 6% падаражэлі паслугі тэлефоннай сувязі.** Цяпер хвіліна тэлефонных перамоваў з Украінай каштуе 219 рублёў, з краінамі Балтыі – 324 рублі, пагаварыць з расейцамі абыдзецца ў 267 рублёў за хвіліну. Яшчэ даражэй будзе пазваніць у ЗША (960 рублёў за хвіліну размоваў) і Ізраіль (1124 рублі). Тарыфы ўначы па буднях і ў выхадныя трохі таннеі.

■ **У 2001 годзе Беларусь мае намеры адкрыць 6 новых замежных прадстаўніцтваў: пасольствы ў Азербайджане, Арменіі, Грэцыі і Пакістане, а таксама генеральныя консульствы ў Рыо-дэ-Жанейра, Гамбургу і Мюнхене.** На сённяшні дзень Беларусь мае за мяжой 47 прадстаўніцтваў у 41 краіне свету. Іх утрыманне абыдзецца сёлета дзяржаве ў 22,4 мільёна долараў. У мінулым годзе было на 1 мільён долараў менш.

■ **Сёння ў беларускай сталіцы пачнецца юнацкі хакейны турнір пад патранажам А. Лукашэнкі з вельмі выразнай назвай «Масква-Минск», хоць, акрамя зборных гэтых гарадоў, у ім возьмуць удзел таксама юнакі з Омска і Рыгі.** Да невыразнай гульні нашых спартсменаў мы ўжо прызвычаіліся. Цікава, што, апрача відочнай «інтэграцыйнай палітыкі», мы ўбачым зараз?

■ **Папа Рымскі Ян Павел II пакутуе ад хваробы Паркінсона.** Пра гэта паведаміў Джанфранка Фінэсчы, хірург, які апераваў яго пасля падзення ў 1994 годзе. Дагэтуль Ватыкан адмаўляў факт захворвання 80-гадовага пантыфіка. Заява медыка абудзіла да жыцця размовы пра тое, што Ян Павел II можа добраахвотна пайсці з пасады. Праўда, апошні раз такое здаралася 700 гадоў таму. Па чутках, Папа Рымскі збіраўся любой цаной дачакацца юбілейнага 2000 года, а потым добраахвотна скласці паўнамоцтвы. Тым не менш па раскладзе Ватыкана сёлета ён плануе наведаць Сірыю, Мальту, Украіну і, магчыма, Грэцыю.

## НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА




**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»** 1230

## Найстарэйшая беларуска жыве ўжо ў трэцім стагоддзі

**Ірына ШАНЦАВА**

123-ці дзень нараджэння адзначыла 2 студзеня Марыя Васільеўна Шарая, жыхарка вёскі Ніжнія Жары, што ў Брагінскім раёне Гомельшчыны.

Гэтая жанчына, якой пашанцавала пажыць у трох стагоддзях, зараз жыве ў поўнай адзіноце, паколькі ўсе яе блізкія сваякі ўжо памерлі. Магчыма, што Марыя Шарая – самая старая жыхарка не толькі Беларусі, але і ўсёй планеты. ■

БелаПАН

## Замена на восьмым канале

**Міхась КАРПОВІЧ**

З 12 гадзінаў дня 1 студзеня на восьмым частотным канале, што транслюецца па Мінску і Мінскай вобласці, пачало сваё вяшчанне «Сталічнае тэлебачанне» – кампанія, заснаваная Мінскім гарвыканкамам.

Як мы і прадказвалі, тэлекампанія «8-ы» не здолеў утрымацца на сваім канале. Яе замянілі на «СТБ». Нягледзячы на поўную дэпалітызаванасць «8-га», яму не ўдалося выстаяць у барацьбе з канкурэнтамі, за спінамі якіх, па чутках, – падтрымка кіраўніка адміністрацыі прэзідэнта Міхаіла Мясніковіча, ягонага першага намесніка Уладзіміра Замяталіна, а таксама цяперашняга кіраўніка БТ Віктара Чыкіна і старшыні Мінскага гарвыканкама Міхаіла Паўлава.

На сённяшні дзень «СТБ» амаль не робіць сваіх перадачаў, а рэтранслюе расійскі канал «Ren-TV», які належыць «Газпрому». Некалькі разоў на дзень «СТБ» паказвае свае інфармацыйныя 15-хвілінныя выпускі, проста перакрываючы перадачы расійскага канала. У выніку атрымоўваецца поўная бязглуздзіца. За 15 хвілінаў, пакуль паказваецца ўласная прадукцыя «СТБ», падзеі фільмаў набываюць новы абарот, і патрабуецца час, каб уцяміць, што ж менавіта там адбылося.

Па ацэнках адмыслоўцаў, «СТБ» спатрэбіцца яшчэ не адзін месяц, каб наладзіць выпуск поўнавартасных уласных праграмаў і фільмаў. Увесь гэты час гледачы мусяць глядзець расійскія перадачы – кавалкамі.

Тым часам, пакрыўджаныя супрацоўнікі «8 канала» збіраюцца далей змагацца за свае правы і адстойваць свой канал. ■

## Будзьма разам!

Сёння, на парозе III тысячагоддзя, азіраючы мінулае і ўглядаючыся з трывогай і надзеяй у будучыню, мы звяртаемся да вас, суайчыннікі, сябры, калегі і аднадумцы, ветэраны нацыянальнага руху Беларусі. Дзе б вы ні былі – на Радзіме ці ў замежных краінах – згуртуемся пад нашымі спрадвечнымі сімваламі, каб абараніць спрадвечныя чалавечыя каштоўнасці: свабоду асобы і незалежнасць Краіны. З'яднаемся, каб разам пераадолець катастрафічную раз'яднанасць, песімізм і разгубленасць. З гэтай мэтай ствараецца новая грамадская арганізацыя – Згуртаванне ўдзельнікаў адраджэнскіх, незалежніцкіх, вызвольных рухаў.

Запрашаем да супрацоўніцтва ўсіх, хто на працягу апошніх дзесяцігоддзяў бараніў ад вынішчэння нашую культуру і мову, нашую прыроду і гісторыю, нацыянальную годнасць і свабоду. Партыйная, канфесійная, нацыянальная прыналежнасць, сацыяльны статус і ўзрост значэння не маюць.

Будзьма разам у галоўным. Дробнае – разам пераадолеем.

З Новым годам, дарагія сябры!

**Уладзімір Крукоўскі, Міхась Чарняўскі (каардынатар, тэл. 284-13-22), Здзіслаў Сіцька, Аляксей Марачкін, Зміцер Санько, Уладзімір Арлоў, Валеры Мазынскі**

## Адвакат Кудзінава вымагае змянення выраку

**Генадзь БАРБАРЫЧ**

3 студзеня Таццяна Станкевіч – адвакат дэпутата Вярхоўнага Савета 13-га склікання Уладзіміра Кудзінава – накіравала ў Мінскі абласны суд наглядную скаргу. У ёй гаворыцца аб неабходнасці змянення выраку ў сувязі з увядзеннем у дзеянне з 1 студзеня 2001 года новага Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь.

У адпаведнасці з артыкулам 5 закона аб увядзенні ў дзеянне новага КК, калі ў новым Крымінальным кодэксе прадугледжанае больш мяккае пакаранне за тыя злачынствы, па якіх раней ужо былі вынесеныя прыгаворы, то яны павінны быць перагледжаныя ў адпаведнасці з патрабаваннямі новага заканадаўства.

Нагадаем, што Кудзінаў 4 жніўня 1997 года быў прызнаны вінаватым у неаднаразовай дачы хабару і прыгавораны судом Барысаўскага раёна Мінскай вобласці да 7 гадоў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму. Потым да яго была прыменена амністыя і тэрмін пакарання скарочаны на 2 гады. У новым Крымінальным кодэксе артыкул 431 (дача хабару) прадугледжвае меншы тэрмін пазбаўлення волі. Таму прыгавор, як лічыць адвакат, павінен быць зменены ў адпаведнасці з новым КК, а Кудзінаў – вызвалены.

Нагадаем, што Уладзімір Кудзінаў вінаватым сябе не прызнаў. Ён неаднаразова заяўляў, што стаў ахвярай спланаванай правакацыі неўзабаве пасля таго, як падчас канстытуцыйнага крызісу ў лістападзе 1996 года выступіў за імпічмент Аляксандра Лукашэнкі.

Як сказала ў інтэрв'ю карэспандэнту БелаПАН жонка Кудзінава Зоя, «прыгавор суда ў дачыненні да майго мужа незаконны і неабгрунтаваны, а крымінальная справа шытая белымі ніткамі. Але сёння, калі судовая ўлада поўнасцю залежыць ад улады выканаўчай, абскардзіць прыгавор на прадмет яго незаконнасці практычна немагчыма, паколькі рашэнне загадзя ўжо вядомае. У будучыні, пасля змянення палітычнай сітуацыі ў Рэспубліцы Беларусь, прыгавор, я перакананая, будзе адменены, а мой муж цалкам апраўданы». ■

БелаПАН



## Вакзальны «даўгабуд» стаў навабудам

**Кірыла ПАЗЬНЯК**

Напрыканцы 2000 года ў Мінску адчыніўся новы чыгуначны вакзал, разам з Палацам Рэспублікі адзін з самых працяглых сталічных «даўтабудаў» (будаўніцтва ў цэнтры сталіцы вядзецца ўжо 10 гадоў). 30 снежня ў эксплуатацыю ўведзеная пакуль што ягоная першая чарга.

На двух паверхах там пачалі дзейнічаць камеры захоўвання, эскалатары, электроннае табло, зала чакання і платная прыбіральня, прычым самая дарагая ў горадзе (100 рублёў). На ўваходзе супрацьпажарныя і на фотаэлементах дзверы, па некалькі тысячаў долараў кожныя. Зроблены другі – у дадатак да старога – выхад да платформаў. Праўда, вельмі нязручны, асабліва ўзімку: на нахіленай слізкай дарожцы, што ідзе ўгару да рэек, цяжка хадзіць нават з вольнымі рукамі, а не тое што з вялікімі падарожнымі клункамі.

Унутранае аздабленне новага вакзальнага будынка досыць шыкоўнае, усё зроблена, як кажуць, па-еўрапейску. Прычым у белых і чырвоных колерах. Правільна: Лукашэнка знаходзіцца на пасадзе прэзідэнта на малы тэрмін, а вакзал, трэба думаць, узведзены надоўга. А вось звонку ён выглядае блага – нейкай аграмаднай пачварынай, што разам з недарэчным у архітэктурным плане гмахам вакзальнай адміністрацыі відочна псуе старажытную Прывакзальную плошчу. Асучасніваць сталіцу трэба, але разумна.

Знаходзячыся каля галоўнага вакзала краіны, міжволі пачынаеш задумвацца: не, ён быў патрэбны, але ці такі завялікі? Новы вакзал па ідэі можа абслугоўваць адразу да 7,5 тысячаў пасажыраў, але наўрад ці тут калі-небудзь будзе столькі. Да ўсяго і самі супрацоўнікі Беларускай чыгункі кажуць, што цяпер уся яна будзе працаваць на ягонае ўтрыманне.

А тым часам за 11 месяцаў 2000 года рэнтабельнасць перавозак на БЧ склала 18,7%, што меней, чымсьці ў 1999 годзе на 2,4%. Акупляльнасць мясцовых грузавых перавозак 42%, пасажырскіх – 27%. У заняпадзе і рухомы састаў. З 1990 года з'явілася ўсяго каля паўсотні новых пасажырскіх вагонаў. На цяперашні момант замены вымагаюць прыкладна столькі ж лакаматываў.

Вось у такіх умовах улады гуляюцца ў кідкія і гіганцкія будоўлі. Вострыя языкі ўжо ахрысцілі нованабуд «вакзалам для аднаго». ■

## Праваслаўе супраць евангелістаў

Беларускія евангельскія хрысціяне здзіўленыя ўзнагароджаннем некаторых прадстаўнікоў СМІ, якое прайшло па ініцыятыве праўлення Мінскай епархіі Беларускага экзархату Рускай праваслаўнай царквы. Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі Філарэт уручыў групе журналістаў, «што пішуць на тэмы праваслаўя», юбілейную грамату. Сярод намінантаў апынуліся галоўны рэдактар «Народнай газеты» Міхаіл Шыманскі, агляდальнік газеты Ніна Яновіч, галоўны рэдактар рэдакцыі літаратурна-драматычных праграмаў Беларускага радыё Ніна Чайка.

Паводле словаў прадстаўніка Саюза евангельскіх хрысціян-баптыстаў Германа Родава, узнагароджанне граматай некаторых журналістаў, якія ў сваіх матэрыялах дапускалі абразлівыя выказванні ў адрас пратэстанцкіх цэркваў, робіць незразумелай пазіцыю кіраўніцтва Рускай праваслаўнай царквы ў адносінах да прадстаўнікоў іншых хрысціянскіх канфесіяў. Напрыклад, у Ніны Яновіч, аўтаркі артыкула «Беларусі пагражае перспектыва ператварыцца ў пратэстанцкую рэспубліку, ці Нас настойліва штурхаюць да здрады веры нашых продкаў»», дзе пратэстанты паказаныя ў зняважлівым выглядзе, глыбокіх артыкулаў на праваслаўную тэматыку папросту не было. Якія крытэрыі ўплывалі на праваслаўных ерархаў пры вылучэнні падобнага наміната, невядома.

Тым не менш хрысціяне-баптысты пакуль не маюць намераў рабіць дужа далёкіх высноваў. «Ёсць спадзяванне на канструктыўны дыялог з кіраўнікамі РПЦ, – адзначае Герман Родаў. – Мы маем жаданне даведацца, ці быў Беларускі Экзархат ініцыятарам гэтага ўзнагароджання, ці падобная ідэя яму была некім прапанаваная».

На падобную навіну дастаткова жорстка адрэагаваў пастар мінскай поўнаевангельскай Царквы Ісуса Хрыста Веніямін Брух. «Каб сцвердзіць сваё гледжанне, – каментуе пастар, – Яновіч выкарыстоўвала грубую хлусню, факты, што не адпавядаюць рэчаіснасці. На аўтара «Народнай газеты» намі быў пададзены іск у суд. І ў гэтай сітуацыі ўзнагароджанне Яновіч ганаровай граматай фактычна паказвае тоеснасць пазіцыяў журналісткі і Праваслаўнай царквы. Самае прыкрае, што, узнагароджваючы падобных аўтараў, Руская праваслаўная царква заангажоўваецца ў распальванні варожасці да евангельскіх хрысціянаў, якая адбываецца пры згодзе дзяржавы». ■

Інфармацыйны цэнтр «Свабода сумлення»

**НАВАГОДНІЯ ХРОНІКІ**

## Першы сцяг новага тысячагоддзя

Некалькі бел-чырвона-белых нацыянальных сцягоў былі вывешаны ў навагоднюю ноч у мінскім мікрараёне Паўднёвы Захад. Самае вялікае палотнішча было прымацаванае да праводоў паміж жылымі дамамі па вуліцы Голубева. «Гэта былі першыя ў трэцім тысячагоддзі нацыянальныя сцягі, узнятыя над Беларуссю», – так пракаменціраваў акцыю адзін з яе ўдзельнікаў, які пажадаў застацца невядомым. ■

## Беларускамоўныя Санта-Клаусы

«Маладафронтаўцы» выйшлі ў навагоднюю ноч у Мінску ў касцюмах Санта-Клауса і Святога Мікалая. Яны раздавалі гуляючым людзям каляндарыкі, недзяржаўныя газеты і аўдыёкасеты, а таксама віншавалі іх на беларускай мове. Па словах Паўла Севярынца, рэакцыя мінчан на віншаванні па-беларуску была «самая станоўчая», прычым многія адказвалі «на добрай беларускай мове». Бел-чырвона-белая група маладафронтаўцаў неаднаразова прыцягвала ўвагу супрацоўнікаў міліцыі, аднак ніхто не быў затрыманы. ■

## Ветэран «прапіў» ордэны

У навагоднюю ноч у аднаго магілёўскага пенсіянера прапалі тры ордэны Чырвонай Зоркі. Як вынікае з заявы пацярпелага ў міліцыю, 78-гадовы пенсіянер з 22 гадзінаў 31 снежня да 4 раніцы 1 студзеня выступаў у ролі гасціннага гаспадара, распіваючы алкагольныя напоі ў сваёй кватэры з двума невядомымі мужчынамі. Прапажу трох ордэнаў ветэран выявіў, калі прачнуўся. ■

## Замест ёлкі запаліў хату

У навагоднюю ноч адзін з жыхароў Гомеля, які пасварыўся з жонкай, вырашыў адпомсціць ёй і ажыццявіць ранейшую пагрозу – спаліць уласны дом. Ён залез на гарышча, развёў там вогнішча, у выніку чаго сам жа і задыхнуўся ад дыму, пакінуўшы дом без даху, а сваіх дваіх дзяцей – без бацькі. ■

## Ад стала – у цверазілаўку

Магілёўскі медвыцвярэзнік на працягу апошніх двух гадоў вылучаўся незвычайнымі навагоднімі кліентамі. Так, першым кліентам 1999 года быў непаўнагадовы, а праз год – блізняты. Сёлета сярод 23 магіляўчан, якія апынуліся падчас навагодніх святаў у выцвярэзніку, не аказалася ніводнай жанчыны, што таксама лічыцца незвычайнай з'явай.

Разам з тым сёлета работнікі медвыцвярэзніка са шкадаваннем адзначаюць вялікую колькасць сярод сваіх кліентаў 18-20-гадовых маладых людзей. ■

## Згарэлі свінні

Сур'ёзны пажар раніцай 2 студзеня адбыўся ў вёсцы Зуі Стаўбцоўскага раёна Мінскай вобласці. Тут згарэў свінарнік. У агні загінула 160 парасят. Паводле звестак МНС, асноўная прычына пажараў святочнымі днямі – неасцярожнае абыходжанне з агнём. Толькі ў адзінкавых выпадках прычынай узгаранняў была няспраўная праводка або пячное ацяпленне. ■

БелаПАН

## Рок-гільяціна-2000

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

Новая рок-каранацыя, толькі цяпер з адмоўным падтэкстам, чакае Беларусь. Рэдакцыі «Музычнай газеты» і «Навінак» заснавалі свае прызы тым рок-гуртам, што асабліва вызначыліся ў гэтым сэнсе ў 2000 годзе.

Конкурс завецца «Рок-гільяціна-2000» з намінацыямі «Горшы гурт года», «Самы нецікавы альбом», «Самая няўдалая песня», «Самы бессэнсоўны тэкст» і некаторыя іншыя. «Узнагароджанне» разам з канцэртам адбудзецца напачатку лютага ў прысутнасці шматлікіх журналістаў, кіраўнікоў гуказапісваючых кампаніяў і лідэраў беларускага рока.

Арганізатары акцыі адзначылі, што не ставяць на мэце канкурэнцыю сапраўднай рок-каранацыі, якую яны паважаюць, і падкрэсліваюць, што ідэя «Рок-гільяціны-2000» узнікла з амерыканскага вопыту. Напрыклад, там ёсць і «Оскар», і «АнтыОскар». Прычым атрымаўшыя антыпрызы заходнія і амерыканскія спевакі часцей за ўсё зусім не абураюцца, бо ў гэтым усім ёсць немалая доля суб'ектыўнасці.

А вызначаць лаўрэатаў «Рок-гільяціны» будуць чытачы газет і ўсе ахвотныя, хто слухае беларускі рок. ■

## Медыкам давядзецца кідаць паліць

**Кірэй МАНУЙЛА**

З 1 студзеня 2001 года на загад міністра аховы здароўя Ігара Зеланкевіча ва ўсіх без выключэння ўстановах медыцынскай галіны забаронена паленне. Нікацінавае табу распаўсюджваецца на шпіталі, паліклінікі, медыцынскія навучальныя ўстановы і даследчыя інстытуты, прычым як на пацыентаў, гэтак і на ўрачоў. Тут нават не прадугледжана адмысловых месцаў для палення, тым, хто мае звычку шкодзіць тытунем здароўю, давядзецца выходзіць на вуліцу.

У Рэспубліканскім цэнтры здароўя нам паведамілі, што на гэтым барацьба з паленнікамі, а ў Беларусі паліць 47% насельніцтва, не спыніцца. Зараз у міністэрстве аховы здароўя распрацоўваецца праект указа, паводле якога спіс грамадскіх месцаў, дзе нельга будзе паліць, пашырыцца. У прыватнасці, гэта будзе тычыцца ўстановаў, што падпарадкоўваюцца міністэрствам культуры і адукацыі, а таксама прыпынкаў гарадскога транспарту. Апрача таго, супрацьцыгарэтным указам збіраюцца абмежаваць рэкламу тытунёвых вырабаў і забараніць правядзенне тытунёвымі фірмамі разнастайных акцыяў па стымуляванні продажу сваёй прадукцыі. ■

✝

З глыбокім смуткам паведамляем, што 30 снежня 2000 года на 63-м годзе жыцця раптоўна памёр вядомы беларускі мастак

**ГЕНРЫХ ЦІХАНОВІЧ**

сябра мастацкай суполкі «Пагоня».
Вечная яму памяць
Рада суполкі «Пагоня»

# Першыя беларусы III тысячагоддзя

**У святочную ноч Новага 2001 года ў сталічных радзільнях чарадой з'яўляліся на свет першыя грамадзяне і грамадзянкі Беларусі (многім бацькі яшчэ не далі імёнаў) XXI стагоддзя і III тысячагоддзя. Якімі яны будуць для немаўлятак ды іхніх бацькоў, ведае толькі Бог, але хочацца верыць, што шчаслівымі і бясхмарнымі. Вось гэтыя самыя маладыя жыхары рэспублікі на руках у сваіх шчаслівых мацi:**



?.. Слабадзянік, дзяўчынка, рост 48 см, вага 2.900 г, нарадзілася ў 6.15. Маці — Вольга Слабадзянік



Кацюша Ягадкіна, рост 51 см, 3.400 г, нарадзілася ў 7.35. Маці — Іна Ягадкіна



?.. Аніскoвіч, хлопчык, рост 48 см, вага 2.650 г, нарадзіўся ў 8.45. Маці — Іра Анісковіч



?.. Мінчукова, дзяўчынка, рост 47 см, вага 2.300 г, нарадзілася ў 4.43. Маці — Марыя Мінчукова



?.. Конічаў, хлопчык, рост 49 см, вага 3.050 г, нарадзіўся ў 22.00. Маці — Вольга Конічава.



?.. Аўдзеева, дзяўчынка, рост 48 см, вага 2.600 г, нарадзілася ў 23.35. Маці — Вольга Аўдзеева.



?.. Новік, дзяўчынка, рост 49 см, вага 3.050 г, нарадзілася ў 18.00. Маці — Вераніка Новік



?.. Індзюкоў, хлопчык, рост 52 см, вага 3.300 г, нарадзіўся ў 10.55. Маці — Вольга Індзюкова



?.. Красоўская, дзяўчынка, рост 51 см, вага 3.350 г, нарадзілася ў 16.10. Маці — Ларыса Красоўская

*Рэдакцыя НАШАЙ СВАБОДЫ віншуе бацькоў з дзецьмі, бабуляў і дзядуляў з унукамі і зычыць немаўляткам здароўя, шчасця, дабрабыту і доўгага веку на вольнай беларускай зямлі!*

## Каналы мяняюць карэспандэнтаў у Мінску

**Юрый АЛЯКСЕЕЎ**

Расійскія тэлеканалы НТВ і РТР мяняюць уласных карэспандэнтаў у Беларусі.

Паводле звестак прэс-цэнтра Хартыі'97, 3 студзеня Мінск пакінуў уласны карэспандэнт НТВ у Беларусі Аляксандр Калпакоў, які працаваў у Мінску тры гады. Кандыдатура яго пераемніка пакуль невядомая. Але, па ўсім відаць, гэта будзе таксама грамадзянін Расіі.

Як паведамляе «Хартыя», спасылаючыся на надзейныя крыніцы, на месца ўласнага карэспандэнта НТВ у Мінску прасіўся вядучы аналітычнай праграмы «Панарама» беларускага тэлебачання Юрый Казіятка. Аднак яму было адмоўлена.

Новы карэспандэнт РТР будзе прадстаўлены ў другой дэкадзе студзеня. Пакуль невядома, хто заменіць Алену Лукашэвіч, якая працавала на РТР у Беларусі таксама каля трох гадоў. Вядома толькі, што прадстаўляць новага ўласнага карэспандэнта прыедзе асноўны вядучы праграм навінаў РТР Яўген Равенка і што гэта таксама будзе грамадзянін Расіі.

У карпункце НТВ, як паведамляе «Хартыя», запэўнілі, што змена ўласнага карэспандэнта канала ў Беларусі праведзена планава. Прозвішча новага карэспандэнта там пакуль не назвалі. Карэспандэнцкі пункт трэцяга найбуйнейшага расійскага тэлеканала — Грамадскага расійскага тэлебачання — працуе пакуль у Мінску ў ранейшым саставе. Карэспандэнтам ОРТ застаецца Дзмітрый Наважылаў.

БелаПАН

## Саюзная валюта можа прыйсці раней

**Юрый ПАЦЁМКІН**

Аляксандр Лукашэнка не выключае, што пры наяўнасці эканамічных і арганізацыйных перадумоў Беларусь і Расія могуць перайсці да выкарыстання адзінай грашовай адзінкі раней тэрміну, прадугледжанага пагадненнем аб увядзенні адзінай грашовай адзінкі і фарміраванні адзінага эмісійнага цэнтра. Пра гэта беларускі прэзідэнт заявіў у сваім першым у 2001 годзе інтэрв'ю, якое ён даў інфармацыйнай кампаніі «Інтэрфакс».

У адпаведнасці са згаданым пагадненнем, з 2005 года ў якасці адзінага плацежнага сродку ў расійска-беларускім саюзе павінен выступаць расійскі рубель, а з 2008 года гэтую функцыю павінна выконваць адзіная саюзная валюта.

Аляксандр Лукашэнка зазначыў, што пытанне аб стварэнні адзінага эмісійнага цэнтра «вельмі далікатнае, паколькі яно закранае суверэнітэты дзвюх краінаў». Таму паспешлівасць у яго вырашэнні недапушчальная, лічыць прэзідэнт. Пытанне фарміравання адзінага эмісійнага цэнтра, паводле яго слоў, будзе дадаткова прапрацоўвацца ўрадамі і нацыянальнымі банкамі дзвюх краін з улікам ходу рэалізацыі Дагавора аб стварэнні Саюзнай дзяржавы для ўключэння ў саюзны канстытуцыйны акт.

Прэзідэнт падкрэсліў таксама, што адзіная валюта і адзіны эмісійны цэнтр, па сутнасці, з'яўляюцца асновай беларуска-расійскай эканамічнай інтэграцыі. Па яго словах, калі ў Беларусі і Расіі будзе адзіны плацёжны сродак, інтэграцыйныя працэсы паміж краінамі паскорацца. Перш за ўсё, лічыць кіраўнік дзяржавы, адзіная валюта паскорыць дынаміку ў эканоміцы і аблегчыць гандаль і ўзаемаразлікі паміж суб'ектамі гаспадарання, а, значыць, павысіць узаемны тавараабарот, абароніць айчынных вытворцаў, загрузіць вытворчыя плошчы. Усё гэта, у канчатковым выніку, павысіць дабрабыт беларускіх грамадзянаў.

БелаПАН

## Газ расійскі, харчы беларускія

**Аляксей АРЭШКА**

Як стала вядома БелаПАН, Савет міністраў Беларусі прыняў рашэнне аб прапрацягу на 2001 год умоваў дзеяння міжурадавага беларуска-расійскага пагаднення ад 16 кастрычніка 1998 года аб частковай аплаце запазычанасці за пастаўкі расійскага газу пастаўкамі харчавання і матэрыяльна-тэхнічных рэсурсаў беларускіх вытворцаў.

У сувязі з гэтым Беларускаму канцэрну па матэрыяльных рэсурсах даручана ўзгадніць з расійскім бокам пералік тэхнікі на суму 1,5 мільярда расійскіх рублёў, якая пастаўляецца ўказаным канцэрнам у кошт пагашэння запазычанасці за ўжыты расійскі газ.

БелаПАН

## НАРОДНАЕ МЕРКАВАННЕ

**Як вас закранула адмена недэнамінаваных грошай першага студзеня?**



**ПАВЕЛ, перакладчык:**

— Я даведаўся аб гэтым дзесьці тыдні са тры да Новага года, але за некалькі дзён да ягонага наступлення мне надавалі гэтых «старых» грошай і яны ляжаць мёртвым грузам пакуль што. Пасля пайду мяняць. Я негатыўна адношуся да такога раптоўнага вываду гэтых грошай з абароту, шмат маіх знаёмых маюць з гэтым праблемы.



**САДОЎСКІ МІХАІЛ, кіроўца:**

— Я ў прынцыпе ад людзей аб гэтым пачуў дзесьці с тыдзень да міленіума. А ў мяне асабіста ніякіх праблемаў у сувязі з гэтым не было, проста таму, што грошай ніякіх няма.



**ВОЛЬГА, студэнтка:**

— Трыццатага я аб гэтым даведалася, спужалася, але пасля глянула, а ў мяне толькі трыста рублёў гэтых старых. Так што без праблемаў.



**КАЦЯРЫНА ІГАРАЎНА, гандлярка з дзяржкрамы:**

— Дзесьці за тыдзень даведалася! Я сама працую ў краме гандляркаю, таму ў мяне былі такія праблемы! Людзі прасілі даць грошай новых на рэшту, а ў мяне ж на ўсіх не хопіць. І сваркі з-за гэтага!



**САША, студэнт:**

— У мяне грошай мала, таму мяне асабліва гэта не цікавіла амаль што. Я думаю ж не праблема ў сбербанку памяняць?



**Ваеннаслужачы, не назваўся:**

— Я даведаўся напярэдадні Новага года, але і тады ж успомніў, што калісці ў пачатку года ўжо аб гэтым казалі. У мяне асабіста праблемаў не было, усё памяняў-размяняў.



**ТАЦЦЯНА ВАСІЛЬЕЎНА, настаўніца:**

— Ды вось якраз толькі што адправілі мяне на Кальварыйскую, 7 мяняць гэтыя грошы. Але ж я настаўніца і ў мяне іх не шмат, так што бог з імі. Мне зімой яшчэ заробку не далі, а там жа новымі дадуць.



**МІКАЛАЙ СЯМЁНАВІЧ, пенсіянер:**

— Ой, я ж гэтым цікаўлюся, і я ведаў, што гэта будзе яшчэ толькі калі вырашалася, што гэта будзе, і таму ў мяне асабіста ніякіх праблемаў з гэтым не было. І ніякага ажыятажа.

Апытвалі Аляксей ШЫДЛОЎСКІ і Уладзімір ШЛАПАК (фота)

# Садам Хусейн – жывы ці мёртвы?

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

**Садам Хусейн мёртвы! Садам Хусейн яшчэ жывы, але вельмі хворы! Садам Хусейн жывейшы за ўсіх жывых! Такая палеміка разгарнулася на старонках сусветнай прэсы вакол стану здароўя іракскага дыктатара.**

Сілы, апазіцыйныя рэжыму Садама Хусейна, чарговы раз яго «пахавалі». Як паведаміў Вярхоўны савет ісламскай рэвалюцыі Ірака, іракскі прэзідэнт і адначасова генеральны сакратар партыі Баат перанёс інсульт і, магчыма, сканаў. Афіцыйны рупар С.Хусейна – іракскія дзяржаўныя СМІ – актыўна абвяргаюць інфармацыю аб пагаршэнні стану здароўя свайго патрона. Як звычайна, сам герой скандалу на публіцы не з'яўляецца. У адрозненне ад дэмакратычных краінаў, у Іраку (як, зрэшты, і ў іншых дыктатурах і аўтакратыях) не прынята інфармаваць грамадзянаў пра здароўе лідэра.

**Пра рэзкае пагаршэнне стану здароўя іракскага дыктатара стала вядома з іракскай апазіцыйнай газеты** *Al-Sharq al-Awsat*, што выдаецца ў Лондане.

Са спасылкай на ананімныя, але добра інфармаваныя крыніцы газета паведаміла, што Садам Хусейн страціў прытомнасць падчас банкета пасля пяцігадзіннага навагодняга вайсковага парада і быў шпіталізаваны з дыягназам «інсульт».

У гэты ж дзень інфармацыю пра хваробу іракскага дыктатара распаўсюдзіла кіраўніцтва Вярхоўнага савета ісламскай рэвалюцыі – апазіцыйнай групоўкі, якая базуецца ў сталіцы Сірыі Дамаску. Старшыня Вярхоўнага савета Баян Джабр паведаміў, што мае шматлікія сведчанні – Садам Хусейн некалькі разоў пакідаў трыбуну падчас парада, і ў той жа вечар у яго здарыўся або інсульт, або інфаркт. Дыктатар быў дастаўлены ў шпіталь Ібн Сіна ў Багдадзе, дзе цяпер праходзіць курс інтэнсіўнай тэрапіі.

Ёсць і ускосныя пацверджанні хваробы С.Хусейна. Напрыклад, адмена прамой тэлевізійнай трансляцыі навагодняга парада без аніякіх тлумачэнняў і значнае ўзмацненне аховы будынкаў міністэрства абароны і дзяржаўнага тэлебачання. З'явілася інфармацыя, што вакол шпіталя Ібн Сіна выстаўленая асабістая прэзідэнцкая гвардыя, якая не прапускае нікога ўнутр, а з краінаў Захаду ў Ірак былі тэрмінова выкліканыя адмыслоўцы ў галіне сардэчна-сасудзістай хірургіі.

Дарэчы, трансляцыю парада збіраліся глядзець тысячы іракцаў. Чакалася, што ён стане самым пампезным з часоў вайны ў Персідскім заліве. Садам Хусейн планаваў паказаць Захаду сучасныя ракеты класа «зямля-зямля», а таксама больш за тысячу танкаў, што былі набытыя ў Расіі.

Тым часам, іракскі ўрад і дзяржаўныя СМІ актыўна абвяргаюць чуткі пра хваробу або смерць С.Хусейна. Міністр інфармацыі Ірака Салам Хатаб аль-Насіры заявіў, што «гэтыя паведамленні бязглуздыя і вартыя смеху». Каб пацвердзіць сваю праваты, ён паведаміў, што 63-гадовы іракскі лідэр адстаяў усе 5 гадзінаў парада на трыбуне і нават асабіста стрэліў у паветра 142 разы з вінтоўкі, якую трымаў у адной руцэ.

Чуткі пра кепскі стан здароўя іракскага дыктатара з'яўляюцца ўжо не першы раз. Некалькі месяцаў таму брытанская *The Times* паведаміла пра ракавае захворванне Садама Хусейна – са спасылкай на бліжэйшае атачэнне кіраўніка, якое не належыць апазіцыйным колам. Гэтую інфармацыю таксама абвяргала іракскае тэлебачанне.

Тым часам, заходняя прэса ўжо назвала імя магчымага пераемніка С.Хусейна на пасадзе кіраўніка дзяржавы. У выпадку заўчаснай смерці іракскага прэзідэнта гэтае месца займе, хутчэй за ўсё, ягоны старэйшы сын Удзей. Вядома, што 4 гады таму на ягонае жыццё быў учынены замах, аднак нейкім цудам ён застаўся жывы, і цяпер перасоўваецца толькі на інваліднай калясцы. Тым не менш, інваліднасць не замінае Удзею Хусейну атрымоўваць усё новыя пасады. Некалькі месяцаў таму ён стаў кіраўніком Нацыянальнага саюза моладзі Ірака і старшынёй Нацыянальнага саюза студэнтаў Ірака. Удзей Хусейн займае больш за 20 кіруючых пасадаў. Ён ачольвае Алімпійскі камітэт Ірака, Саюз іракскіх журналістаў, некалькі каналаў тэлебачання, газеты і часопісы. Іракскія эмігранты, якія былі з ім асабіста знаёмыя, называюць старэйшага сына Хусейна забойцам, садыстам і гвалтоўнікам. ■



Бацька і сын: Садам Хусейн на навагоднім парадзе і Удзей Хусейн на адпачынку

# Чэхія змагаецца за тэлебачанне

Міхась ПУРЫШКЕВІЧ

**Дэманстрацыя з удзелам 60-100 тысяч чалавек адбылася ў мінулую сераду ў цэнтры Прагі на Вацлаўскай плошчы. Пражане патрабавалі адстаўкі новага генеральнага дырэктара Чэшскага тэлебачання Іржы Ходача і аднаўлення працы звольненых тэлежурналістаў. Мітынгі з колькасцю ўдзельнікаў да 10.000 чалавек адбыліся таксама ў Брно і Астраве.**

Учора стала вядома пра «адказ» Іржы Ходача на народныя патрабаванні. Як паведаміла прызначаная ім кіраўніца інфармацыйнага вяшчання Яна Бабошыкава, яе шэф быў шпіталізаваны з дыягназам «моцнае нервовае патрасенне». Чэшскія аналітыкі мяркуюць, што гэта можа стацца спрытным палітычным ходам, які здыме напружанасць у грамадстве.

Мы ўжо паведамлялі пра канфлікт на Чэшскім тэлебачанні. Нагадаем, што 20 снежня 2000 года Савет чэшскага тэлебачання прызначыў Іржы Ходача новым генеральным дырэктарам дзяржаўнага Чэшскага тэлебачання. І.Ходач лічыцца чалавекам Вацлава Клауса, лідэра апазіцыйнай Грамадзянскай дэмакратычнай партыі. Тэлежурналісты палічылі, што гэтае прызначэнне можа пацягнуць палітызацыю ЧТ і адмову ад аб'ектыўнага асвятлення падзеяў, таму было абвешчана аб непрызнанні новага генеральнага дырэктара і аб пачатку страйку. І.Ходач звольніў з працы страйкоўцаў, а тыя ў адказ захапілі частку Чэшскага тэлецэнтра і дагэтуль выходзяць у эфір пры дапамозе спадарожніка. Прыведзеная новым генеральным дырэктарам тэлебачання служба бяспекі спрабавала сілавым шляхам выкінуць журналістаў з студыі, але безвынікова.

Да прэзідэнта Вацлава Гавела, міністра культуры Паўла Достала, шматлікіх прадстаўнікоў чэшскай інтэлігенцыі, якія падтрымалі ўдзельнікаў страйку, далучылася і верхняя палата чэшскага парламента. Сенатары таксама ўзялі бок журналістаў і заклікалі І.Ходача пайсці ў адстаўку.

Прэзідэнт Вацлаў Гавел адклаў свой адпачынак, які ён меркаваў правесці на Канарскіх выспах, у сувязі з агульнай напружанасцю ў Чэхіі, паведаміў ягоны прэс-сакратар Ладзіслаў Шпачак.

Больш за 130.000 чалавек падпісалі петыцыю ў падтрымку адстаўкі І.Ходача. Відавочцы дэманстрацыі, якая адбылася ў Празе пазаўчора, сцвярджаюць, што такіх масавых акцыяў сталіца Чэхіі не бачыла з часоў Аксамітавай рэвалюцыі 1989 года.

Дадатковую пікантнасць сітуацыі надае той факт, што, па прызнанні самаго І.Ходача, ён нават не з'яўляецца грамадзянінам Чэхіі. ■

ЭКАНОМІКА

# Сорас прадказвае крызіс

Ірына СТАРЦАВА

Джордж Сорас, вядомы сусветны фінансіст і мецэнат, які ў свой час атрымаў мянушку «чалавек, што абрушыў Банк Англіі», папярэджвае пра магчымасць чарговага глабальнага фінансавага крызісу.

Дж.Сорас, які ў 1982 годзе зарабіў амаль 20 мільярдаў долараў на дэвальвацыі брытанскай валюты, гаворыць пра тое, што аслабленне амерыканскай эканомікі прывядзе да больш сур'ёзных наступстваў, чым гэта прадказваюць адмыслоўцы.

Асабліва моцна наступствы замаруджвання эканамічнага росту ў ЗША паўплываюць на тыя краіны, што стаяць на шляху развіцця. Так пачнецца новы глабальны крызіс.

На думку Джорджа Сораса, Федэральная рэзервная сістэма (ФРС) ЗША, якая адыгрывае ролю амерыканскага цэнтральнага банка, вельмі марудна рэагуе на аслабленне эканомікі Злучаных Штатаў.

Учора ФРС абвясціла пра зніжэнне ўліковых ставак банкаўскага крэдыту – з 6,5% да 6%. Гэты крок мусіць актывізаваць дзейнасць амерыканскіх прадпрыемстваў і «падняць» эканоміку краіны. Аднак, на думку Дж.Сораса, гэты крок ФРС ЗША стане безвыніковым. Капітал пойдзе з рынкаў ЗША – і паляпшэння не адбудзецца.

У гэтай сітуацыі замаруджванне эканамічнага росту ЗША балюча адаб'ецца на краінах, што стаяць на шляху развіцця. Гэтыя краіны больш за іншыя пацерпяць ад сыходу капітала з рынку.

Як мяркуе Джордж Сорас, гэтым разам удар па сусветнай эканоміцы будзе не такім моцным, як у 1997-1998 годзе, калі адбыўся гэтак званы «азіяцкі крызіс». «Рынкі цяпер не ў лепшым стане, —сказаў фінансіст, — так што не трэба чакаць краху пасля краху». ■

ЕЎРАСАЮЗ

# Швецыя стала галоўнай

Міхась КАРПОВІЧ

У Еўрапейскм Саюзе – планавая змена кіраўніцтва. З 1 студзеня 2001 года і да 1 ліпеня ЕС будзе ачольваць Швецыя. Асноўныя мэты яе палітыкі на гэты час – пашырэнне ЕС на Усход, павелічэнне колькасці працоўных месцаў і ахова авакольнага асяроддзя.

Швецыя, якая далучылася да Еўрасаюза ў 1995 годзе, упершыню стала на чале ЕС. Яна атрымала прэзідэнцтва з рук Францыі, якая дагэтуль кіравала Еўрасаюзам.

Цікава, што аднаго з самых актуальных пытанняў для аб'яднанай Еўропы – пераход на наяўную еўрапейскую валюту – Швецыя вырашыла пазбегнуць. Яна – разам з Даніяй і Вялікабрытаніяй – вырашыла не далучацца да Еўрапейскага валютнага саюза.

Да пачатку 2001 года ўжо было вырашанае пытанне аб размеркаванні галасоў пры прыняцці рашэнняў у ЕС, а таксама пра пашырэнне саюза. Кіраўнічая палітыка Францыі ў Еўрасаюзе выклікала шмат крытыкі з боку іншых краінаў-чальцоў Саюза. У прыватнасці, Швецыі. Цяпер іншыя краіны будуць ацэньваць ужо шведскія падыходы да вырашэння праблемаў у рамках ЕС.

На першую палову гэтага года ў сталіцы Швецыі Стакгольме адбудзецца саміт Еўрасаюза, які будзе прысвечаны пытанням беспрацоўя і рэформе пенсійнай сістэмы.

Прэм'ер-міністр Швецыі Горан Персан заявіў, што яшчэ ана праблема, якой Швецыя збіраецца шчыльна заняцца на час свайго прэзідэнцтва ў ЕС, гэта мір на Блізкім Усходзе. Г.Персан паведаміў, што ўжо тэлефанаваў кіраўніку Ізраіля Эхуду Бараку, а таксама лідэру Палестынскай аўтаноміі Ясіру Арафату, каб высветліць – якія менавіта намаганні можа прыкласці аб'яднаная Еўропа, каб дапамагчы ў вырашэнні канфлікту. ■

# Мітэрану не хапіла грошай

Міхась КАРПОВІЧ

Парыжскі суд дазволіў сыну нябожчыка былога прэзідэнта Францыі Франсуа Мітэрана Жан-Крыстофу выйсці з-за кратаў пад заклад у 5 мільёнаў франкаў (больш за 700.000 долараў), паведаміла агенцтва *France Presse*. Аднак адвакат Мітэрана-малодшага Жан-П'ер Версіні-Кампінчы заявіў, што ў ягонага кліента няма такіх грошай.

54-гадовы Жан-Крыстоф Мітэран працаваў у 1986-1992 гадах дарадцам свайго бацькі па справах краінаў Афрыкі. 21 снежня 2000 года ён трапіў за краты па абвінавачванні ў махлярстве і незаконным выкарыстанні службовага становішча ў сувязі з пастаўкамі зброі ў Анголу. Ён катэгарычна адмаўляе свой удзел у незаконных здзелках, аднак прызнае, што на адзін з ягоных швейцарскіх рахункаў было пераведзена каля 2 мільёнаў долараў ЗША. Абарона Ж.К.Мітэрана паведамляе, што гэтая сума была законным камісійным працэнтам, які сын прэзідэнта атрымаў ад урада Анголы за пасярэдніцтва ў атрыманні замежных крэдытаў. ■

# Еўрасаюз не спяшаецца пашырацца

Ірына СТАРЦАВА

Еўрапейскі Саюз не плануе ў бліжэйшы час вызначаць дакладныя даты прыёму новых чальцоў. Пра гэта паведаміў у аўторак камісар ЕС, прадстаўнік Германіі Гюнтэр Ферхойген. Ён дадаў, што вызначыць дакладную дату ў бліжэйшай будучыні не прадстаўляецца магчымым.

На стане на сённяшні дзень ніводная з краінаў-кандыдатаў не адпавядае ў дастатковай меры крытэрыям, неабходным для ўваходжання ў ЕС, зазначыў Г.Ферхойген. Так ён пракаментаваў заяву прадстаўнікоў Швецыі аб тым, што ўжо ўлетку гэтага года будуць вызначаныя дакладныя даты прыёму ў ЕС новых чальцоў. ■

# Малдова не можа выбраць прэзідэнта

Міхась КАРПОВІЧ

Вось ужо трэці месяц у Малдове крызіс улады. Пасля таго, як парламент краіны чатыры разы запар не здолеў абраць новага прэзідэнта, ён быў распушчаны паводле рашэння цяперашняга кіраўніка дзяржавы Пятра Лучынскага.

Фармальна тэрмін прэзідэнцкіх паўнамоцтваў П.Лучынскага скончыўся яшчэ 1 снежня, аднак Канстытуцыйны суд краіны вырашыў, што пакуль не будзе абраны новы прэзідэнт, ім застанецца цяперашні кіраўнік дзяржавы.

П.Лучынскі прызначыў новыя парламенцкія выбары на 25 лютага. Новы парламент у першую чаргу мусіць заняцца выбарамі новага прэзідэнта.

Нагадаем, што ўлетку 2000 года парламент Малдовы змяніў Канстытуцыю, каб пазбавіць прэзідэнта істотнай часткі паўнамоцтваў. Сярод новаўвядзенняў было і абранне прэзідэнта не агульнанародным галасаваннем, а парламентам. Цяпер П.Лучынскі заклікаў будучых дэпутатаў «адкруціць назад» і вярнуць у Канстытуцыю старую норму. ■

# Расізм у Microsoft?

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

Сямёра былых і цяперашніх супрацоўнікаў сусветна вядомай камп'ютэрнай імперыі *Microsoft*, якую ачольвае самы багаты чалавек планеты Біл Гейтс, падалі ў суд на кампанію. У сваім шматмільярдным іску яны абвінавачваюць *Microsoft* у расісцкім падыходзе да сваіх служачых. Паводле статыстыкі, у кампаніі працуе толькі 2,6% персаналу афраамерыканскага паходжання, а колькасць менеджэраў з чорным колерам скуры яшчэ меншая – усяго 1,6%. Варта зазначыць, што гэта ўжо другое абвінавачванне *Microsoft* у расавай дыскрымінацыі за апошнія месяцы.

На думку пакрыўджаных супрацоўнікаў, афраамерыканскіх служачых несправядліва ацэньваюць, недастаткова актыўна прасоўваюць па службе, вельмі часта караюць і надзвычай хутка звальняюць.

Як паведаміла брытанская газета *Financial Times*, інтарэсы пацярпеўшых майкрасофтаўцаў у акруговым судзе штата Вашынгтон будзе адстойваць Уільям Гэры, чарнаскуры амерыканец, які з'яўляецца старэйшым партнёрам у флорыдскай адвакацкай канторы *Gary, Williams, Parenti, Finney, Lewis, McManus, Watson and Sperando*. Ён збіраецца пераўтварыць суд у грамадскую акцыю і нават абнародаваў графік сваіх прэс-канферэнцыяў наконт іску.



У кастрычніку 2000 года ў суд ужо быў пададзены іск па абвінавачванні *Microsoft* у дыскрымінацыі супрацоўнікаў па расавых і полавых прыкметах. Слуханні па гэтай справе працягваюцца, і колькасць істцоў, пакрыўджаных кампаніяй, можа павялічыцца. ■

# Украіна рэфармуе граматыку

Ірына СТАРЦАВА

Адмысловая моўная камісія Украіны, у якую ўваходзіць і віцэ-прэм'ер Украіны Мыкола Жуліньскі, унесла 19 змяненняў ва ўкраінскую граматыку, абавязаўшы школы, ВНУ, рэдакцыі газет пісаць словы паводле новых правілаў.

Як вядома, у 30-х гадах савецкія ўлады прымусова рэфармавалі як беларускую, так і ўкраінскую граматыкі, забараніўшы выкарыстанне многіх словаў і адмяніўшы некаторыя правілы маўлення. Усё рабілася для таго, каб «наблізіць братэрскія мовы» да мовы рускай. Цяпер Украіна вырашыла вярнуцца да традыцыйных правілаў. Напрыклад, цяпер замест слова «аукцион» трэба будзе пісаць «авкцион», «маратон» замест «марафон» і «Хранция» замест «Франция».■

# Абрабавалі беларускую дыпламатку

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

У Маскве абрабавалі другога сакратара беларускай амбасады Марыю Марозаву. Пра гэта паведаміла агенцтва РИА «Новости».

У амбасадзе Рэспублікі Беларусь у Расіі паведамілі, што напад быў учынены ў сераду, 3 студзеня, каля 23.00. Невядовы зламыснік выхапіў з рукі жанчыны сумачку, у якой былі, па яе словах, дыпламатычная картка, ключы ад кватэры і 150 расійскіх рублёў (каля 5,5 долараў). Узбуджаная крымінальная справа, вядзецца следства. ■

# «У Лукашэнкі няма шанцаў...»

## Былы міністр сельскай гаспадаркі і палітычны вязень Васіль Лявонаў адказвае на пытанні карэспандэнта НАШАЙ СВАБОДЫ

Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ

***— Спадар Лявонаў, дазвольце павіншаваць Вас з Новым годам і пажадаць усяго найлепшага. Як сустрэлі новае тысячагоддзе?***

— Дзякуй. Вам і ўсім чытачам НАШАЙ СВАБОДЫ таксама мае самыя шчырыя віншаванні. А святкаваў я ў кампаніі сваякоў і добрых сяброў. Гэтага шчасця – сустракаць Новы год разам з дарагімі табе людзьмі я быў пазбаўлены запар тры гады, можаце ўявіць мае пачуцці.

***— Цікава, як даводзілася сустракаць Новы год у турме?***

— Застолля не было. Зняволеныя толькі што нейкі самаробны пірог могуць падрыхтаваць ды заварыць крутой гарбаты, усіх астатніх навагодніх радасцяў яны пазбаўленыя.

***— Сніцца турма?***

— Усё радзей. Не люблю ні гаварыць на гэтую тэму, ні нават думкамі туды вяртацца.

***— Вам там дасталося?***

— З чатырох установаў, дзе давялося пабываць, самыя дрэнныя ўспаміны пра Жодзінскі ізалятар. Туды мяне заслалі, паводле прызнанняў высокапастаўленых міліцыянтаў, на перавыхаванне. Там гэтым займаюцца з асалодай. А вось у аршанскай калоніі, дзе я сядзеў ужо як асуджаны, становішча ўсё ж іншае. Там нават начальнік калоніі спадар Чайкін не мае сярод зняволеных мянушкі, што сведчыць пра павагу да яго. Для яго не пусты гук і правы зняволенага, хаця мы ўсе добра ведаем, наколькі гэтыя правы абмежаваныя.

***— Вядома, што Вы так і не прызналі сябе вінаватым у злоўжываннях, якія знайшоў Ленінскі раённы суд. А з якіх прычынаў, на Вашую думку, тады ўзнікла Вашая справа?***

— Мне відавочна, што яна замешаная і на асабістых рахунках, і на палітыцы, ды і грошы мелі значэнне. Арыштавалі ж мяне і пачалі «раскручваць» як арганізатара забойства Мікалуцкага. Лукашэнка ў «Рассвеце» ўжо праз некалькі дзён пасля майго арышту заявіў, што гэта я і Старавойтаў вінаватыя. У Жодзінскім ізалятары мяне менавіта на гэтую тэму дапытваў генерал міліцыі Мікалай Лапацік. Але нічога не пацвердзілася, і яны былі вымушаныя прышчапіць мяне да рассветаўскай справы, каб хоць у нечым абвінаваціць.

***— А якія грошы Вы мелі на ўвазе?***

— Тыя дзесяткі мільёнаў долараў, якія страцілі людзі, што карміліся вакол закупак зерня. А закупляла краіна дзесяткі мільёнаў тон штогод. У першы ж дзень, калі мы ўвялі конкурс на права паставак, кошт тоны зерня знізіўся са 160 да 105 долараў.

***— Вы цяпер можаце назваць гэтых людзей?***

— Некаторыя з іх уваходзілі ў Савет бяспекі, ды і зараз уваходзяць. Напрамую з гэтым былі звязаныя асобы з Камітэта дзяржкантролю. Я ўпэўнены, Лукашэнка добра ведае гэтых людзей.

***— Гучала меркаванне, што Аляксандр Лукашэнка даў згоду на Ваш арышт за тое, што Вы яго неаднаразова, мякка кажучы, крытыкавалі на самых розных узроўнях. Ён, маўляў, Вас папярэджваў, Вы не спыніліся, і ...***

— Не думаю. Сваю згоду пайсці на пасаду міністра я абумовіў свабодай дзеянняў па рэфармаванні сельскай гаспадаркі. І шмат што было зроблена. Больш 200 калгасаў і саўгасаў змянілі форму ўласнасці, у іх усё стала належаць канкрэтным людзям. Мы ўжо шырока перавучвалі кіруючыя кадры. Лукашэнку гэта не падабалася, але сам ён мне нічога не казаў. Хаця я ведаю, што нашыя чырвоныя памешчыкі – старшыні гаспадарак – павялічылі на яго ціск з мэтай спыніць рэформы і свайго дамагліся.

***— Вашую рэформу яшчэ магчыма аднавіць, калі ўзнікнуць патрэбныя ўмовы?***

— Дакладна не ведаю. Сітуацыя кожны дзень мяняецца, але безумоўна не ў лепшы бок. Калі б Лукашэнка дадумаўся ў гэтым годзе сысці ў адстаўку сам, то яшчэ можна было б паспрабаваць. Але калі яшчэ такіх пяць гадоў, то нічога для рэфармавання ўжо не застанецца. Тады вёска пачне аднаўляцца, апрануўшы спачатку лапці. Асабіста я перакананы, што Лукашэнка ўжо нанёс сельскай гаспадарцы страты большыя, чым яна панесла за гады вайны. Тады страты вымяраліся конямі, калёсамі, баронамі – цяпер трактарамі ды камбайнамі, рушацца комплексы, разбураецца гаспадарчая структура, якую будавалі дзесяткі гадоў. У такім выпадку застанецца адзіны шлях аднаўлення – праз невялікія спачатку фермы, але ён усё роўна прывядзе да буйных гаспадарак, якія мы мелі і цяпер імкліва страчваем.



***— Вы лічыце магчымай добраахвотную адстаўку Лукашэнкі?***

— Калі Масква яго не падтрымае, яму лепш самому сысці. У гэтым выпадку ягоныя шанцы мінімальныя – такія мае першыя ўражанні пасля выхаду на волю. Сяляне, здаецца, зразумелі, што ад яго заробкаў не дачакаюцца. Чыноўнікі таксама ў ім расчараваліся, бо перспектываў на заможнае жыццё і абароненую старасць ніякіх. Прадпрымальнікі і апазіцыя – адкрытыя апаненты. Але галоўнае пытанне, што вырашыць шэраговы выбаршчык, той, хто абіраў Лукашэнку, спакусіўшыся на ягоныя абяцанкі. Гэтым людзям і сёння патрэбныя абяцанкі – іх трэба знайсці. Такім чынам, прэзідэнтам можа стаць таксама толькі вельмі хітры, я б сказаў, нахабны чалавек. Сярод дэмакратаў я такога і не бачу. Праўда, яшчэ ёсць магчымасць паставіць на так званага незалежнага кандыдата. Мне падаецца, трэба ісці гэтым шляхам. Усё ж дзяржаўнай прапагандзе ўдалося раздзьмуць варожасць да апазіцыі ў многіх нашых грамадзянаў, і гэта трэба ўлічваць.

***— Вы самі можаце кагосьці прапанаваць?***

— Не, яшчэ шукаю.

***— А сябе ў гэтай ролі не бачыце?***

— Таксама не. Але бачу сябе на баку таго, хто кіне Лукашэнку выклік. Мой абавязак дапамагчы гэтаму чалавеку.

***— У прэсе ўжо называюцца лічбы, колькі можа каштаваць прэзідэнцкая кампанія ў Беларусі. Быццам бы хопіць 2-3 мільёнаў. Вы згодны, што нашае прэзідэнцтва так мала каштуе.***

— Сёння – так. Нават менш. Аднак не трэба расслабляцца. Дарага абыдуцца не выбары, а кантроль за імі. Калі самы пільны кантроль не наладзіць, то ўвогуле няма сэнсу праводзіць выбары.

***— А можа і добра. Ці Вы выключаеце, што Лукашэнка, калі стане ізноў прэзідэнтам, зменіцца ў лепшы бок?***

— Выключаю, цалкам. Паверце мне, гэты не зменіцца. Можа крыху змяніцца рыторыка, нават ужо такія прыкметы бачныя, але сутнасць застанецца той самай. Ніякіх стабільнасці і прадказуемасці, пра якую ён заяўляе і пра якую сапраўды мараць і нашыя людзі, і інвестары, ад яго чакаць не варта. Быў час праверыць.

***— У Вас ёсць прагноз на пазіцыю Масквы адносна Лукашэнкі?***

— Прагнозу няма, але я перакананы, што не ў стратэгічных мэтах Масквы пакідаць тут чалавека, які ўсё разбурыць. У расійскім кіраўніцтве дастаткова разумных людзей, здольных знайсці больш прымальныя варыянты. І я адзначу, што пакуль і не бачна прыкметаў, што там выбар зрабілі. Гэта добра. Пакажы яму адмоўнае стаўленне і ён жа пачне прыкідвацца ахвярай, што з ім не хочуць сябраваць, а нашыя людзі шкадуюць ахвяраў. Відаць, там вырашылі падчапіць яго на кручок і трымаць як мага даўжэй. Бо тады ён нервуецца, робіць памылкі. І з яго лягчэй вытрасаць патрэбныя расіянам рашэнні. Нам пры такім раскладзе трэба дзейнічаць вельмі асцярожна – гэта ўжо пытанні палітычных тэхналогіяў. ■

ЮСТЫЦЫЯ

# Аперацыя «Ліквідацыя»

Рыгор БУЯН

**З перапынкам у два месяцы праваабарончы цэнтр «Вясна» атрымаў два папярэджанні з міністэрства юстыцыі, што можа скончыцца ліквідацыяй гэтай арганізацыі.**

Першае папярэджанне ад 26 кастрычніка, падпісанае начальнікам Упраўлення грамадскіх сувязяў міністэрства юстыцыі Міхаілам Сухініным, указвае на парушэнне «Вясной» і Грамадзянскага кодэкса, і Статута, і закона «Аб грамадскіх арганізацыях». На самой справе парушэнні заключаюцца ў тым, што ў незарэгістраваным бюлетэні «Права на волю», які цэнтр выдае на беларускай, рускай ды англійскай мовах накладам 299 асобнікаў, ужываецца назва «Вясна-96» – пад такой назвай праваабарончы цэнтр дзейнічаў з моманту стварэння ў 96-м годзе да прымусовай перарэгістрацыі 15 чэрвеня 1999 года. Мінюст даў загад «Вясне» выправіцца і паведаміць пра тое на працягу месяца.

Але ўжо 19 снежня М.Сухінін падпісаў паўторнае папярэджанне. Гэтым разам за тое, што цэнтр «Вясна» не паведаміў у міністэрства пра прынятыя захады. Служка Феміды запатрабаваў цягам двух тыдняў «даць адказ з прадастаўленнем адпаведнага пратакола аб скасаванні меўшых месца парушэнняў дзеючага заканадаўства». Міхаіл Сухінін лічыць, што «адсутнасць адказу ў дадзеным выпадку дае падставу ініцыяваць пытанне аб ліквідацыі грамадскага аб'яднання».

Між тым кіраўніцтва «Вясны» пісьмова адказала на першае папярэджанне ва ўстаноўленыя тэрміны. А тое, што ліст не дайшоў да адрасата, гэта не правіна праваабаронцаў. Як бы там ні было, а «Вясна» здавацца не збіраецца і будзе да канца адстойваць сваё права на існаванне. ■

КРЫМІНАЛ

# Напад на сінагогу

Кірыла ПАЗЬНЯК

**У ноч з 27 на 28 снежня мінулага года на адну са сталічных сінагогаў, што знаходзіцца на вуліцы Крапоткіна, быў учынены напад з падпалам.**

Невядомыя пабілі шыбы ў малельнай зале і ўкінулі туды дзве бутэлькі з запальнай сумессю. Ад адной з іх загарэлася фіранка на вакне і пачаўся пажар. Малельная зала была зачыненая, але вартаўнік зламаў дзверы і досыць хутка зліквідаваў полымя. Таму пашкоджанні былі нязначнымі. Справу расследуе Цэнтральны РАУС Мінска.

Аднак, на думку супрацоўнікаў габрэйскіх рэлігійных абшчынаў, наўрад ці злачынцы будуць знойдзеныя, а тым больш пакараныя. Гэтак нічога не было зроблена па некалькі аналагічных леташніх выпадкаў, калі на праваслаўны Вялікдзень быў падпалены будынак па вуліцы Даўмана, на сцяне якога нападнікі пакінулі надпіс «Бей жидов – спасай Россию!», а з месяц таму туды ўварвалася група брытагаловых, якія бегалі па будынку і крычалі, што яны яшчэ вернуцца.

Прэзідэнт Сусветнага згуртавання беларускіх габрэяў Якаў Гутман лічыць, што падпал сінагогі – гэта толькі «вяршыня айсбергу, а сам ён у хвалях дзяржаўнага антысемітызму. Напад на сінагогу ёсць наступства таго, што дагэтуль, напрыклад, не зроблена аніякіх захадаў да тых, хто працягвае прапагандаваць і прадаваць кнігу «Вайна па законах подласці». Нагадаем, што, нягледзячы на заключэнні такіх вядомых навукоўцаў, як А.Грыцкевіч, У.Конан, А.Мальдзіс, М.Пастухоў і А.Трусаў, у Савецкім судзе сталіцы, а потым у гарадскім судзе гэтая кніга прызнаная ўсяго толькі «выданнем навуковых артыкулаў».

Разам з тым Я.Гутман кажа не пра асобныя выпадкі антысемітызму, а пра існаванне цэлай габрэйскай праблемы і ўсур'ёз параўноўвае цяперашнюю сітуацыю ў Беларусі з тым, як усё пачыналася ў Нямеччыне 30-ых. У прыватнасці, ён згадаў пра «хрустальную ноч», калі ў 1937 годзе пасля нападаў з разбіццём шыбаў на сінагогі і крамы, што належалі габрэям, паследавала іх фізічнае знішчэнне. Беларускія ўлады як звычайна рэагуюць на антысеміцкія экстрэмісцкія ўчынкі моўчкі, што ёсць, на думку Я.Гутмана, «сігналам для тых, хто гэта робіць, працягваць у тым жа духу». ■

# Один за всех сидит в темнице

Валерий ЩУКИН,
правозащитник

2000 год стал годом «громких дел». Неугодных правящему режиму государственных и общественных деятелей осудили по статьям Уголовного кодекса. А.Климов, В.Леонов, Н.Статкевич, М.Чигирь, В.Щукин лишь отстаивали мнение, отличное от мнения главы правящего режима.

Закончился год. Вместе с ним завершилось второе тысячелетие. И каков итог? Белорусские чиновники даже на собственной кухне боятся высказать критические замечания в адрес «всенародноизбранного». А вот оппозиционных политиков тюремные нары не сломили — ни один из осужденных назначенную «вину» не признал, а потому для всего мира они — политзаключенные.

Замысел по обвинению политиков по общеуголовным статьям явно провалился, и режим стал срочно разрабатывать на оппозиционеров террористические обвинения: президентские СМИ выдают одну за другой «сенсации» о наводнении Беларуси оружием, взрывчаткой, подрывной литературой, шпионами, миллионами долларов, тысячами боевиков...

Как свидетельствует и наш, и мировой опыт, маховик репрессий можно остановить лишь низвергнув правящий режим. Но это можно сделать только на президентских выборах. Не сомневаюсь, что в 2001 году серия «громких дел» продолжится. Поскольку же судить политиков пока не «сезон», в жернова репрессий, которые не могут вращаться вхолостую, бросили преподавателей ВУЗов — XXI век начнется на Беларуси с «громкого дела» о взятках в Гомельском государственном мединституте (ГоГМИ). Во взяточничестве обвиняется почти взвод преподавателей во главе с ректором Ю.Бандажевским.

Взяточничество — зло и должно беспощадно искореняться. Однако только суд может назвать человека преступником. Данное дело по первой инстанции будет рассматривать Военная коллегия Верховного суда. Что вполне объяснимо: один из обвиняемых — военнослужащий, и потому дело подлежит рассмотрению военным судом. Но в областном суде военной коллегии нет, компетентность же гарнизонного суда для столь громкого дела явно недостаточна.

Все обвиняемые, а их — два десятка человек, придут в суд самостоятельно и лишь одного, из-за которого собственно-то вершить правосудие станут служители Фемиды со звездами на плечах, приведут в наручниках. Это подполковник медицинской службы В.Равков — заведующий военной кафедрой и проректор ГоГМИ по воспитательной работе.

Увы, говорить о его служебном положении придется в прошедшем времени. Владимир Николаевич арестован 12 июля 1999 года. 12 января 2001 года истекает предельный, полуторагодичный срок содержания под стражей без судебного приговора (статья 92 УПК). Хватит ли мужества у Военной коллегии высшей судебной инстанции освободить подсудимого из-под стражи? Ведь прецедента такого рода в нашей стране еще не было.

Владимир Равков преступником, хотя прошло более 17 месяцев, официально не назван. Однако уже через месяц после ареста его уволили и с работы, и с воинской службы. В приказе министра обороны №309 от 19 августа 1999 года записано: «...за проступки, дискредитирующие воинское звание офицера». То есть генерал-министр Чумаков назвал своего подчиненного преступником без суда и следствия.

Прокуратура республики в нарушение статьи 62 Конституции отказала Наталье Равковой в праве защищать своего мужа. Способ, при помощи которого обошли эту конституционную гарантию, апробирован белорусскими следователями многократно: жену допросили в качестве свидетеля.

Мой совет как правозащитника белорусским женам, мужьям, мамам, папам, сыновьям, дочерям: если родного человека арестовали и Вас вызывают на допрос, — подумайте хорошо, перед тем как пойти. Вы имеете право (статья 27 Конституции) не давать показания в отношении своих близких родственников — отвечая же на вопросы следователя, Вы, тем самым, лишаете себя права быть защитником арестованного члена семьи.

В данном конкретном уголовном деле обвинение во взяточничестве предъявлено многим должностным лицам ВУЗа. Степень их вины ни коллективная, ни индивидуальная, мне неизвестна. Зато известно, что все обвиняемые по данному делу находятся на свободе, а сидит в тюремной камере лишь подполковник Равков. Как если бы Владимир Николаевич был организатором и руководителем всей этой группы подозреваемых. Однако, со слов адвоката, известно, что находящемуся под арестом офицеру организация преступной группы не вменяется. Да и вообще, на мой взгляд, в своей должности проректора по воспитательной работе и завкафедрой военной подготовки, к приему экзаменов Владимир Равков причастен был меньше других.

Офицер Равков предъявленное обвинение во взяточничестве отвергает. Вот за свое упрямство и сидит. Старший следователь по особо важным делам прокуратуры Республики Беларусь советник юстиции В.Терехович так и заявил: «При той позиции, которую обвиняемый Равков В.Н. занял на предварительном следствии в настоящее время — мера пресечения ему в сторону смягчения изменена не может».

Получается, что содержание под стражей используется прокуратурой как мера наказания для несговорчивого обвиняемого. Остальные, как следует из вышеуказанного письма прокурорского следователя, «...чистосердечно раскаялись в совершенных преступлениях, правдиво рассказали о фактах получения ими взяток, что нашло впоследствии объективное подтверждение. Соответственно мера пресечения была им изменена на более мягкую — подписку о невыезде».

А ведь Уголовно-процессуальный кодекс применение и отмену меры пресечения «содержание под стражей» с признанием или не признанием обвиняемым вины не связывает. УПК в качестве оснований на применение такой меры пресечения указывает наличие оснований предполагать, что обвиняемый скроется, или воспрепятствует следствию, или будет продолжать совершать преступные деяния. Уголовно-процессуальный кодекс отмену или изменение меры пресечения увязывает с отпадением в ней необходимости или с обстоятельствами дела. Так ведь расследование закончено! И если подполковник Равков виновен, он должен понести суровое наказание. Но свободы должен лишать суд, а не следователь. Во всем цивилизованном мире так и происходит. Увы, международные нормы не для нас — Беларусь живет не по ним, а по указам и декретам.

Судебный процесс начнется в конце января 2001 года. Заседание суда выездное. ■

 



# Небяспечны выбар

**Юзік ЛАБЭЦКІ, анархіст**

Тое, што я дацэнт, не робіць мяне ворагам простых людзей, як некаторых. Вось і раніцай 01.01.01. нібыта землятрус скінуў аўтара гэтых радкоў з ложка. Мендзялееву гэтак дрэнна не было, як ён сваю табліцу сасніў. Да чаго ваш карэспандэнт дапетрыў, нельга хаваць ад народа!

Нам трэба выбраць Прэзідэнта. Лепшага, як той казаў, з сыноў і дачок. Каб ягоныя словы і думкі рабіліся бясспрэчным стандартам дзеля ўсяя магутнае нацыі беларусаў. То бок мы мусім прыняць калектыўнае рашэнне і з калектыву прэтэндэнтаў пакінуць аднаго.

З першага разу, вы добра гэта ведаеце, іншы раз не атрымліваецца. А з другога атрымліваецца гэткае, што потым сорамна бывае.

Але ёсць спосаб даведацца пра волю большасці без шматкротных балаціровак. Трэба проста папрасіць электарат не выкрэсліваць усіх апроч аднога, а расставіць кандыдатаў па месцах, напрыклад:

**А – першы,**
**В – другі,**
**С - трэці.**

У нас мільёны выбаршчыкаў. Каб болей было зразумела, што ў такім выпадку атрымаецца, уявіце сабе, што іх у сто тысячаў разоў меней. Няхай сабе гэтыя шэсцьдзесят чалавек прагаласавалі наступным чынам:

**23 - А С В**
**19 - В С А**
**16 - С В А**
**2 - С А В**

Нецяжка убачыць, што 25 чалавек лічыць, што **А** лепшы за **В**, але **В** паставілі наперадзе **А** ажно 35 чалавек. 23 — палічылі, што **А** лепшы за **С**, тым жа часам 37 паставілі **С** наперадзе **А**. Аддало перавагу **В** перад **С** 19 чалавек, а назвала **В** раней за **С** — 41. Вось і атрымліваецца, што калі трэба выбраць аднаго кандыдата, то ім стане любы большасці **С**, і шкадаваць пра тое не прыйдзецца.

А зараз падумайце, што пры нашай выбарчай сістэме, калі кожны, хто прыцягнецца да урны, укіне ў яе бюлетэнь з адным прозвішчам, першае месца дастанецца недарэку А. У гэткі спосаб мы ўжо не аднойчы змарнавалі ўсе перавагі калегіяльнасці на выбарах усіх узроўняў.

Вельмі смешна выглядаюць у гэтых варунках прыхільнікі г.зв. еўрапейскай мадэлі дэмакратыі, каторыя бязглузда сцвярджаюць, што тое, што лічаць добрым 15 асобаў, лепей за тое, што лічаць сапраўды добрым 10 асобаў. Калі аматары электаральных гульняў галасуюць за аднаго кандыдата, то лічаць, што ставяць яго вышэй за астатніх, але ж яны не выказваюцца ніяк пра вартасць астатніх і іхнае меркаванне застаецца няпоўным.

Паколькі ваш карэспандэнт пасля смерці Сталіна І.В. у выбарах не ўдзельнічае па ідэйных меркаваннях, то заклікаю вас, шаноўныя чытачы, абіраць адно аднаго ўзгодненай думкай, каторую падтрымлівае найбольшая з магчымых колькасць галасоў, а не простая большасць. ■

## Чыноўнікі не лічаць грошай

**Канстанцін УВАРАЎ**

У 1999-2000 гадах Магілёўскім аблвыканкамам былі допушчаня парушэнні пры расходаванні сродкаў на ўтрыманне апарату сваіх упраўленняў.

Устаноўлена, што ў 1999 годзе Магілёўскім аблвыканкамам на сваё ўтрыманне была зрасходавана сума, якая на 37% перавышала запланаваную. Значныя сродкі былі патрачаны на набыццё аўтамабіляў, кандыцыянераў, сродкаў аўтасігналізацыі, магнітол, аплату паслугаў сотавай сувязі.

Паводле звестак мінстата, за першае паўгоддзе 2000 года прадпрыемствамі і арганізацыямі вобласці было выкарыстана на выплату камандзіровачных расходаў і навучанне спецыялістаў 2,8 мільёна долараў ЗША. За 1999 год аблвыканкам на кветкі і сувеніры патраціў 3,5 мільёна рублёў, у 2000 годзе — 6,5 мільёна рублёў. Для параўнання: расходы па артыкуле «Аднаразовая дапамога тым, хто часова трапіў у галечу» за 1999 год склала 1,6 мільёна рублёў.

У выніку некалькім начальнікам упраўленняў аблвыканкама аб'яўлены вымовы і заўвагі. ■

**БелаПАН**

## Расіяне прыходзяць на беларускі рынак

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ**

2001 год будзе характарызавацца працягам выцяснення беларускага бізнесу замежным капіталам. Такі пункт гледжання ў гутарцы з карэспандэнтам БелаПАН выказаў прэзідэнт Беларускага і Мінскага саюзаў прадпрымальнікаў Уладзімір Карагін. Паводле яго словаў, ужо зараз беларускі бізнес актыўна скупляецца, у асноўным расійскім капіталам: былыя самастойныя прадпрыемствы становяцца філіяламі, падраздзяленнямі расійскіх кампаніяў.

Наступіўшы год, на думку Уладзіміра Карагіна, будзе адзначаны «працягам звужэння тых ніш, якія могуць займаць прадпрымальнікі», і, магчыма, прыпыненнем працэсу ціску на бізнес, «таму што наступіў канец». «У далейшым ужо нельга павялічваць падаткі, нельга павышаць стаўкі арэнднай платы, таму што ўсё гэта дасягнула свайго максімуму, — заявіў ён. — Адначасова гэта будзе і год стабілізацыі тых структураў, якія выжылі ў папярэднія тры складаныя гады». ■

**БелаПАН**

## Нацбанк святкуе юбілей

**Аляксей АРЭШКА**

Нацыянальны банк Рэспублікі Беларусь увёў у абарачэнне памятны банкнот вартасцю 20 рублёў, прысвечаны свайму 10-гадоваму юбілею. Як паведамілі БелаПАН ва ўпраўленні інфармацыі Нацбанка, памятны банкнот вартасцю 20 рублёў з выявай будынка Нацыянальнага банка пагашаны спецыяльным штампам з прыпрэсаванай фальгі ў выглядзе лагатыпу «НБРБ» з віньеткай і лічбамі «1991-2001». Штамп размешчаны на правым купонным полі вонкавага боку банкнота.

Банкнот змешчаны ў спецыяльна выробленую ўпакоўку-буклет, на вонкавым баку якой адлюстраваны будынак Нацыянальнага банка і надпісы «10 год» і «Нацыянальны банк Рэспублікі Беларусь», а на зваротным — апісанне некаторых асноўных ахоўных прыкметаў банкнота на фоне гравюры старога Мінска.

Наклад памятнага банкнота — 5.500 асобнікаў. Ён з'яўляецца законным плацежным сродкам і абавязковы да прыёму на тэрыторыі Беларусі ўсімі фізічнымі і юрыдычнымі асобамі ва ўсе віды плацяжоў без усялякіх абмежаванняў. ■

**БелаПАН**

## Сацыяльная дапамога будзе адраснай

**Марат ГАРАВЫ**

З 1 студзеня ў Беларусі павялічваецца памер мінімальных пенсіяў і ўводзіцца адрасная сацыяльная дапамога. Пра гэта паведаміла міністр сацыяльнай абароны Вольга Даргель, выступаючы на прэс-канферэнцыі ў Мінску напярэдадні Дня сацыяльнага работніка, які адзначаецца 5 студзеня.

Паводле словаў міністра, у адпаведнасці з пастановай урада змяняецца механізм падліку мінімальных пенсіяў па ўзросце асобам, якія маюць працяглы тэрмін працы. Пры гэтым, як адзначыла Даргель, чакаецца нязначнае (на 2-3 тысячы) павелічэнне памеру мінімальных пенсіяў.

Згодна з урадавай пастановай, з 1 студзеня 2001 года ў краіне ўводзіцца адрасная сацыяльная дапамога сем'ям, што маюць непрацуючых інвалідаў першай і другой групаў, дзяцей-інвалідаў ва ўзросце да 18 гадоў, адзінокім інвалідам першай і другой групаў, адзінокім пенсіянерам і адзінокім мужу і жонцы пенсійнага ўзросту, а таксама мнагадзетным і няпоўным сем'ям, якія выхоўваюць непаўналетніх дзяцей. Акрамя таго, дапамога будзе аказана сем'ям, дзе абодва бацькі з'яўляюцца беспрацоўнымі або студэнтамі, якія вучацца з адрывам ад вытворчасці ў прафесіянальна-тэхнічных, сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных установах, а таксама сем'ям, дзе працаздольны ажыццяўляе догляд за інвалідам першай групы, дзіцем-інвалідам ва ўзросце да 18 гадоў, састарэлым, якім болей за 80 гадоў.

Пры гэтым, паводле словаў міністра, дапамога будзе выдзяляцца маючым патрэбу толькі пры ўмове, калі іх сукупны сярэднедушавы даход за тры месяцы, што папярэднічаюць месяцу звароту па дапамогу, не перавышае 50 працэнтаў сярэднедушавога бюджэту пражытачнага мінімуму. Як падкрэсліла Вольга Даргель, на адрасную сацыяльную дапамогу, якая закране каля 800 тысяч чалавек, спатрэбіцца прыкладна 49 мільярдаў рублёў.

**БелаПАН**

**ФОТАФАКТ**



Непрыемнасць на дарозе напярэданні Новага года

**ТЭНДЭНЦЫІ**

## Рабочыя месцы для адстаўнікоў

**Марат ГАРАВЫ**

Па словах міністра па надзвычайных сітуацыях Валерыя Астапава, зараз МНС займаецца аднаўленнем сістэмы грамадзянскай абароны краіны. Пра гэта ён заявіў 4 студзеня, выступаючы ў Мінску на пашыраным пасяджэнні калегіі МНС.

Астапаў, у прыватнасці, зазначыў, што сістэма грамадзянскай абароны краіны пачала разбурацца адразу пасля чарнобыльскай катастрофы з-за адсутнасці сродкаў, бо на ліквідацыю наступстваў трагедыі выдзялялася да 20 працэнтаў дзяржаўнага бюджэту. Па словах міністра, на аснове 1.250 адзінак тэхнікі, перададзенай з ГА ў ваенізаваную пажарную службу, былі створаныя пажарныя спецпадраздзяленні, а астатнія сілы і сродкі ГА ўзмацнілі міністэрства ўнутраных справаў. Як сказаў Астапаў, рэспубліканскі штаб ГА з органа дзяржаўнага кіравання ператварыўся ў структурнае падраздзяленне міністэрства ўнутраных справаў, дзе ён аказаўся без дастатковага фінансавага, кадравага, матэрыяльна-тэхнічнага і навуковага забеспячэння.

Міністр нагадаў, што ў канцы лістапада 2000 года, згодна з указам кіраўніка дзяржавы, сілы і сродкі ГА былі перададзеныя з МУС у структуру МНС.

«У сувязі з гэтым узрастае роля і адказнасць МНС, на якое ўскладзеныя дадатковыя задачы па арганізацыі абароны насельніцтва ва ўмовах ваенных дзеянняў, стварэнні і падтрыманні гатоўнасці сістэмаў кіравання, апавяшчэння і сувязі ГА, ахоўных збудаванняў, арганізацыі мабілізацыйнай гатоўнасці і забеспячэння функцыянавання эканомікі ў асаблівы перыяд», — падкрэсліў міністр.

Паводле яго слоў, аб'яднанне ў складзе аднаго дзяржаўнага органа сістэм папярэджання і ліквідацыі надзвычайных сітуацыяў і ГА дазволіць павысіць ступень гатоўнасці аб'яднанай структуры, «таму што яна будзе штодзённа вырашаць праблемы барацьбы з надзвычайнымі здарэннямі ў мірны час і мець пастаянную практыку адпрацоўкі зладжанасці па вырашэнні задач у ваенны час». Апрача таго, як заявіў Валерый Астапаў, такое рашэнне садзейнічае збліжэнню нарматыўна-прававой базы і арганізацыйнай структуры міністэрстваў па надзвычайных сітуацыях Беларусі і Расіі. ■

**БелаПАН**

**ЗАБАСТОЎКА**

## МаАЗаўцы выстрайкавалі заробак

**Рыгор БУЯН**

28 снежня, перад самым Новым годам, рабочыя Магілёўскага аўтамабільнага завода (МаАЗ) застрайкавалі.

Пасля заканчэння рабочай змены каля 16.00 прыкладна 600 чалавек перакрылі праезную частку дарогі. Прычынай страйку стала затрымка заробку яшчэ за лістапад. Наогул гэта на прадпрыемстве ўжо стала традыцыяй. Дырэктар завода Міканор Міхаловіч са сваімі намеснікамі даводзілі, што пасля 8 снежня (гэтым днём тут выплацілі заробак за кастрычнік) «прайшло не так і многа часу, і рабочыя маглі б пачакаць». Аднак аўтазаводчыкі не паверылі чарговым абяцанням начальства і не спынілі страйк. Кіраўніцтва завода паспрабавала перапыніць стыхійную акцыю пратэсту з дапамогай ДАІ, аднак няўдала. Не здолеў спыніць страсці і кіраўнік «вертыкалі» Кастрычніцкага раёна Магілёва Аляксей Лебедзеў, які ўзяў на сябе абавязак за выплату заробкаў. І толькі пасля 19.00 рабочыя пасля звароту старшыні «пярвічкі» Свабоднага прафсаюза Беларускага Ігара Бугрова спынілі страйк.

Стыхійны пратэст даў плён: наступным днём усе рабочыя атрымалі заробкі за лістапад у поўным аб'ёме. ■

# Беларусы не хочуць Лукашэнку

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

Як паказалі вынікі апошняга апытання, праведзенага Незалежным інстытутам сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў (НІСЭПД), толькі каля трэці нашых суграмадзянаў хочуць, каб Аляксандр Лукашэнка стаў прэзідэнтам Беларусі на яшчэ адзін тэрмін. Яшчэ дзве трэціх рэспандэнтаў адказалі, што яны катэгарычна супраць гэтай кандыдатуры або яшчэ не вызначыліся.

**ЦІ ХОЧАЦЕ ВЫ, КАБ А. ЛУКАШЭНКА БЫЎ ПРЭЗІДЭНТАМ НАШАЙ КРАІНЫ ЯШЧЭ АДЗІН ТЭРМІН ?**

| Варыянт адказу | % |
|---|---|
| Не | 41.5 |
| Так | 36.1 |
| Цяжка адказаць/Няма адказу | 22.4 |

Але гэта вынікі агульнанацыянальнага апытання, у якім бралі ўдзел 1.489 чалавек ва ўзросце ад 16 гадоў і болей (мяжовая памылка рэпрэзэнтатыўнасці – 3%).

Асобна НІСЭПД задаў тое ж пытанне грамадскім лідэрам і экспертам. Былі апытаныя 53 чалавекі. Вынікі яшчэ менш суцяшальныя для цяперашніх уладаў. Абранне А.Лукашэнкі на другі тэрмін хочуць толькі 3,8% беларускай эліты. Цікава, што ў апытанні бралі ўдзел супрацоўнікі як недзяржаўных, так і дзяржаўных структураў. Адказы дзвюх групаў розняцца, але прынцыпова вынікі застаюцца такімі ж – А.Лукашэнка не пройдзе.

**ЦІ ХОЧАЦЕ ВЫ, КАБ А. ЛУКАШЭНКА БЫЎ ПРЭЗІДЭНТАМ НАШАЙ КРАІНЫ ЯШЧЭ АДЗІН ТЭРМІН ? (%)**

| Варыянт адказу | Апытанне лідэраў | | |
|---|---|---|---|
| | Усяго | У тым ліку са структураў недзяржаўных | дзяржаўных |
| Не | 90.6 | 96.8 | 81.8 |
| Так | 3.8 | – | 9.1 |
| Цяжка адказаць/ Няма адказу | 5.6 | 3.2 | 9.1 |

Такім чынам, небяспеку для А.Лукашэнкі на маючых адбыцца прэзідэнцкіх выбарах прадстаўляе не толькі насельніцтва Беларусі, але і беларуская эліта. «Нажа ў спіну» А.Лукашэнка можа чакаць і ад прадстаўнікоў прэзідэнцкай вертыкалі, што яўна не дадае яму ўпэўненасці ў заўтрашнім дні.

Толькі 20% беларусаў «хутчэй задаволеныя» тым, як А.Лукашэнка кіраваў Беларуссю на працягу апошніх 6 гадоў. Гэта істотна кантрастуе з пераднавагодняй заявай А.Лукашэнкі, што, маўляў, «беларускі народ ім не пакрыўджаны» і што «буйных памылак зроблена не было».

**ЦІ ЗАДАВОЛЕНЫЯ ВЫ ТЫМ, ЯК А. ЛУКАШЭНКА КІРАВАЎ КРАІНАЙ НА ПРАЦЯГУ 6 ГАДОЎ?**

| Варыянт адказу | % |
|---|---|
| Хутчэй незадаволены | 36.3 |
| Часткова задаволены, часткова незадаволены | 42.9 |
| Хутчэй задаволены | 20.3 |

Зноў мы бачым адно і тое ж — А.Лукашэнка імкліва траціць папулярнасць у народзе. Не дапамагаюць яму нават абяцанні падвысіць заробкі да 100 долараў у месяц без змянення ўзроўню цэнаў.

У такіх умовах адзінае, што можа выратаваць цяперашняга беларускага кіраўніка і дазволіць яму яшчэ пяць гадоў застацца пры ўладзе – гэта або «сілавы метад», калі выбары адмяняюцца і ўсталёўваецца сапраўдная дыктатура, або шлях фальсіфікацыяў і падтасовак, які ўжо добра вядомы і выбаршчыкам, і выбарчым камісіям Беларусі.

На сённяшні дзень гэта выдатна разумее беларуская эліта, але грамадства не вельмі гатовае прызнаць, што яго чарговы раз будуць падманваць.

**ЯК ВЫ МЯРКУЕЦЕ, ЦІ БУДУЦЬ СВАБОДНЫМІ І СПРАВЯДЛІВЫМІ ВЫБАРЫ ПРЭЗІДЭНТА БЕЛАРУСІ Ў 2001 ГОДЗЕ? (%)**

| | Лідэры | | | Насельніцтва |
|---|---|---|---|---|
| | Усяго | У тым ліку са структураў недзяржаўных | дзяржаўных | |
| Не | 86.8 | 87.1 | 86.4 | 28.0 |
| Так | 7.5 | 3.2 | 13.6 | 32.2 |
| Цяжка адказаць/ Няма адказу | 5.7 | 9.7 | – | 39.8 |

 



# Славянский Союз двух: Красная Шапочка и Серый Волк



Виктор КЛИНКО

**В прошлом году (номера №45, 46) публиковалась первая часть этого материала. Редакция продолжает публикацию аналитических размышлений В.Клинко о содержании и последствиях искуственной «интеграции» Беларуси с Россией.**

## Белорусская Голгофа

Московские политики не готовы к сотрудничеству с прогрессивными и демократическими силами в Беларуси. Они снова делают ставку на антибелорусские силы. Поэтому Беларусь вновь, как и в 1918 году, стоит перед трагической дилеммой, фактически без права осознанного выбора. Ибо правдивая информация для большинства граждан недоступна, а огромные политические, информационные и экономические ресурсы России направлены на поддержание антибелорусского режима.

Для белорусского этноса выбор между моделями национального государства (типа Белорусской Народной Республики) или псевдогосударства (БССР или РБЛ - Республика Беларусь при Лукашенко) это вопрос жизни и смерти.

Для демонстрации фатального характера выбора в системе «Восток–Запад» достаточно мысленно вернуться в 1918 год и представить иной, нежели мы имеем вариант жизни белорусского народа в XX веке в рамках (не БССР) суверенного белорусского государства. Отметим лишь самое страшное, чего удалось бы в значительной степени избежать – миллионы загубленных и не состоявшихся жизней и трагических судеб наших соотечественников.

Миллионы белорусов не подверглись бы переселению на пространства России и СССР и уничтожению в несоизмеримом (в сравнении с другими странами и национальными интересами) масштабе в годы Второй мировой войны. Виленские, белостокские и другие земли, ранее населенные преимущественно белорусами, не стали бы бесхозными объектами торга России (СССР) с Литвой, Латвией, Польшей.

Белорусский язык, белорусская культура и соответствующие белорусским традициям и ментальности формы политического устройства и экономической деятельности господствовали бы на всей территории независимого белорусского государства, живущего в дружбе со своими соседями на Востоке, Западе, Севере и Юге.

Без московского диктата и насилия в XX веке Беларусь к настоящему времени превратилась бы в процветающее европейское государство. Ее население достигло бы 20 миллионов духовно развитых, свободных, трудолюбивых, жизнерадостных и гордых граждан. Последние качества, как и свойственный белорусам оптимизм, незримо связаны с национальными традициями, историей и природой родной земли. Историческая преемственность не возможна без господства на наших землях белорусского языка во всех сферах жизнедеятельности.

Родной язык, национальные традиции, история, культура и природа – живительные силы, питающие любой этнос. Разрушение каждого из указанных компонентов (языка – в первую очередь) нарушает духовную и нравственную гармонию социума и отдельного индивида и обуславливает их деградацию. Человеческие судьбы (как и сама ценность жизни) множеством незримых путей переплетены с историей и судьбой страны.

В XX веке Беларусь оказалась буквально разделенной (РБ – раздавленная Беларусь, не путать с РБ!). Глубина трагедии поколений белорусов последнего столетия может быть без преувеличения обозначена как Белорусская Голгофа. Не осознанная большинством народа и ее лидерами, она тяжким крестом пригибает миллионы наших сограждан.

В этом контексте выпадавшие нам короткие передышки свободы и относительной независимости были как снятие с креста растерзанного тела. А затем его вновь прибивали ржавыми гвоздями на «привычное» место. Мы все в настоящий момент вновь являемся, не осознавая того, свидетелями трагического шествия Беларуси на уготованную ей Голгофу. Аналогия с Иисусом Христом, идущим на место казни, усиливается следующим обстоятельствам. В обоих



случаях очевидцы не в состоянии осознать сути и своей будущей сопричастности к происходящему действию. Оно глубоко касается всех, но и тогда, и сейчас это понимают только избранные.

В последних словах Иисус Христос, обращаясь к Богу-отцу, в муках вопрошает: «Господи, почему ты покинул меня?». И затем вверяет Богу-отцу свой Дух. Сегодняшние палачи Беларуси по силе превосходят все легионы древнего Рима. Наши враги имеют все: власть, армию, милицию, электронные и печатные СМИ.

Горстка белорусской интеллигенции, которая, в отличие от остальных свидетелей белорусской Голгофы, осознает трагедию народа, как и свое бессилие, в отчаянии обращается к Богу: «Почему ты, Господи, оставил Беларусь? Помоги».

Поэтому 10 миллионов потомков, недобитых и не выселенных со своей родной земли, находящихся на грани духовной и физической деградации, не понимая своей вины, несут тяжкий крест трагедии, в которую превратилась белорусская действительность в XX веке. Почему Беларусь по количеству жертв и страданий стала европейским эпицентром трагедий. Главная причина тому – ее колониальный статус, при котором управление осуществлялось марионеточными режимами, под диктовку имперского центра, исходя из интересов большой страны (России, СССР, теперь РФ).

Тем не менее нашелся «политик», который стремится загнать свою страну в интеграционный капкан, лишив белорусский народ исторической перспективы.

## Покинувшие имперский тупик

В 1918 году Финляндии и Польше удалось освободиться от московской зависимости. Для них начался плодотворный этап экономического, демократического и культурного развития как полноправных членов европейского сообщества. (В 1945 г. Польша вновь на 45 лет попадает в ареал московского влияния и безнадежно отстает от Финляндии и других стран). Приведем лишь два показателя, характеризующих достижения бывшей, может быть, не самой отсталой (тогда ее уровень был не ниже уровня Беларуси и Польши начала XX века), окраины царской империи. Бюджет маленькой Финляндии сегодня превосходит бюджет РФ, а уровень жизни финнов не уступает уровню в ведущих странах мира.

Не удивительно, что как только ослабли карательные возможности имперского центра, Восточная Европа и прибалтийские страны пошли по выверенному пути. Прошло всего 10 лет после их исторического выбора, гарантирующего прогресс и процветание. И что же? С каждым годом сокращается отставание этих стран от ведущих европейских, увеличивается разрыв с российскими регионами и Беларусью по уровню благосостояния, развития гражданского общества и демократии.

Опыт Финляндии имеет универсальный характер и являет собой историческое указание на путь выхода (не только для Беларуси) для российских регионов из имперского тупика. Если регионы воспользуется им – Россию ждет прогресс во всех областях. В противном случае, уповая на «самобытность» своего исторического пути, она обречена двигаться по пути, ведущим в очередной тупик.

Мы видим, как бывшие колонии в современных условиях экспансии капитала и технологий достигают значительных успехов. Это происходит, как правило, там, где преодолена изолированность от мировой цивилизации. Однако РФ не может в полной мере черпать из животворных источников капитала и технологий и стать полноправным участником европейских и мировых процессов. Отторжение Европой России невозможно преодолеть заклинанием об исторической и культурной общности. Европа будет дистанцироваться от имперской России, в которой для удержания народов и регионов применяются насилие и ложь.

Европа не впустит в свой дом РФ по двум причинам: 1. Несоразмерность РФ другим странам. 2.Анахронизм формы государственного устройства РФ, где централизованность (единая и неделимая) достигается диктатом.

Но Европа в состоянии (наличие мирового капитала, технологий и т.д.) открыть двери европейского (тогда уже евроазиатского) дома для каждого из российских регионов (стран). Более того, европейские интеграционные процессы позволяют российским регионам после упразднения анахронической и регрессивной формы государственного объединения (федеративного тупика) объединиться (по европейским стандартам) на добровольной и демократической основе.

В качестве эксперимента среди первых по пути Финляндии может пойти Северо-Западный регион (с Калининградской областью или без по решению последней). Тогда Санкт-Петербургу суждено будет выполнить более грандиозную, чем при Петре (окно в Европу), историческую миссию – начать ликвидацию (цивилизованный демонтаж) имперско-федеративной Великой Российской Стены между Европой и российскими регионами. После ее падения регионы вступят в эпоху экономического роста и подлинной демократии.

## Единая и неделимая – отсталая и бедная

*«Россия поднимется, а рядом с ней и мы». Лукашенко. 10.02.2000 г.*

Развитие России за последние десять лет свидетельствует о том, что утверждения о скором экономическом процветании – очередной миф московских вождей (сказки для российского электората и белорусского президента).

За годы экономических реформ Москва, располагая огромными сырьевыми и кредитными ресурсами, разворовала и «проела» сотни миллиардов сырьевых российских и кредитных долларов. Российский долг международным финансовым организациям достиг 160 млрд. долларов (при бюджете всей России в 20 млрд. долларов). Основные сырьевые ресурсы оказались в руках олигархов, интересы которых ограничиваются извлечением сверхприбыли и ее переброской в более безопасные, чем Россия, страны (до 2 млрд. долларов в месяц при Путине). Происходит естественное истощение сырьевой базы. Очевидно, что хозяйствование имперского центра на просторах РФ продемонстрировало всему миру неэффективность (и, более того, опасность) вложения капитала в российскую экономику.

Десять лет – достаточно долгий срок для любого эксперимента в области экономики. За такой период определяются характерные для страны, региона, человека закономерности и тенденции, что позволяет экстраполировать с большой степенью точности достижения России на последующие 10-30 лет.

Что касается уровня жизни россиян (за вычетом Москвы и самих олигархов), то за это время он снизился в два раза (средняя зарплата упала со 100 до 50 долларов). Беларусь в новых «братских» объятьях Москвы также двукратно ее уменьшила.

За этот же период в странах, обладающих меньшими возможностями, в Польше, Венгрии, Чехии и Прибалтике средняя зарплата выросла со 100 до 200-500 долларов. Нет оснований считать, что в следующие 10 лет в России с ее разрушенной экономикой, истощающимися ресурсами, отсталой технической базой, беспримерной коррупцией, воровством и огромным внешним долгом удастся достигнуть существенного улучшения уровня жизни россиян.

Сравним динамику экономического развития с 1991 по 2000 год стран Восточной Европы, лишенных запасов нефти и газа, и России. Стартовые условия для последней были даже предпочтительнее. «Тем не менее, если в 1991 году соотношение ВВП (валового внутреннего продукта) России превосходило в 3 раза совокупный показатель стран Восточной Европы, то в 2000 году соотношение стало не в ее пользу (уменьшился в 4 раза). Российский ВВП не достигнет теперь и 75% от указанного в бывших странах социалистического лагеря. Главные причины столь драматического отставания России в неспособности Москвы управлять огромными территориями и невозможность полнокровного вхождения в европейское и мировое сообщество РФ, принципы управления в которой далеки от норм европейской демократии.

Десять лет «нового» московского правления ознаменовались предоставлением регионам одного вида свободы – свободы участия в разбое и разграблении страны, закоперщиками чего стали чиновники и эмиссары имперского центра.

Грабительская политика Москвы и выращенных ею олигархов по отношению к российским регионам – еще одна из основных причин большинства российских бед. Особенно наглядно это видно при сравнении бедственного положения богатейших по природным ресурсам Дальнего Востока и Камчатки с бурно развивающимися соседними регионами Китая, Кореи и Японии. (Можно сравнить также Калининградскую область с Польшей и Литвой). Можно предположить, что без московской опеки процветание этих (и других) российских земель соответствовало бы уровню, достигнутому их региональными соседями.

Однако Москва, обладая мощными властными структурами и средствами информации, нашла, в свойственной ей традиции (тот прав, у кого сила), виновных в российских бедах. Крайними в развале и упадке экономики обозначены региональные экономические и властные элиты, над которыми следует (по В.Путину) усилить вертикальный контроль.

Вызывает сомнение экономическая эффективность подобного контроля. Московская интеллектуальная, политическая и властная «головка» вновь демонстрирует не эффективность своего управления гигантским российским динозавром (по одной из гипотез именно это и привело к гибели популяции).

## Выход из имперского тупика

Радикальным, но неприемлемым на данном этапе для московских властей рецептом выздоровления и значительного роста экономики России является суверенизация российских регионов, вплоть до создания на территории России конфедерации из 7 - 10 независимых государств. Новое устройство России способствовало бы не только расцвету экономики регионов и росту благосостояния россиян, но позволило бы установить и успешно развивать на всей ее территории демократическое гражданское общество. Все это, как свидетельствует мировая история и трагический опыт самой России, включая опыт последних лет, не совместимо со сверхконцентрацией политической, экономической и финансовой власти в имперском центре.

Европейская интеграция российских стран-регионов устранила бы все препятствия на пути движения мирового капитала (кредита, инвестиций) и технологий, необходимых для развития регионов. Это, в свою очередь, дало бы толчок бурному развитию всего Евразийского континента. Гармонично дополняли бы друг друга огромные сырьевые ресурсы, капиталы, технологический и интеллектуальный потенциалы, обеспечивая социальную защищенность граждан, права и свободы человека.

Можно предположить, что Россия в случае ее разделения в 1991 г. на 7-10 суверенных государств развивалась бы более динамично и успешно, чем восточно-европейские страны. Суверенизация регионов выгодна ей со всех точек зрения: экономической, политической, военной, прав и свобод и т.д. Пугают последствиями распада России весь мир и самих себя кремлевские политики и аналитики с Лубянки, исходя из личных властных, амбициозных и устаревших имперских доктрин о величии России через размер ее территорий.

Россия, обремененная имперским прошлым, обречена оставаться псевдодемократическим государством, что определяет ее неодолимое отставание от государств цивилизованного мира во всех сферах и, прежде всего, в экономике. Народ, лишенный демократических свобод, обречен на деградацию.

«Главная проблема России – это потеря Сибири и Дальнего Востока» (В.Третьяков, главный редактор «Независимой газеты». 06.07.2000 г. РТР.). Еще раньше кремлевско-думский «оракул» (озвучивающий многие установки спецслужб) В. Жириновский предрекал для России «в первом десятилетии XXI века – войну в Средней Азии, а затем с Китаем». Конфликт с Китаем неизбежен. Он определяется тектоническими процессами геополитического напряжения в Дальневосточно-сибирском регионе. Здесь на одном полюсе миллиардное население на территории, которая сокращается из-за наступления пустыни Гоби (всемирное потепление), на другом – пустынные пространства России от Урала до Тихого океана (18 млн. населения). Раздел России с последующей европейской интеграцией российских регионов приведет к усилению экономического роста, формированию гражданских обществ в странах-регионах и их вступлению в общеевропейскую систему безопасности (NATO). В результате могучий североатлантический американо-европейский оборонительный щит простирался бы от Ла-Манша до Курил, надежно защищая все российские территории.

*Продолжение следует*

# Любимое дитя Бога

## В этом году исполняется шестьдесят лет, как умерла Марина Цветаева

**Вероника ЧЕРКАСОВА**

**Говорят, в большом организме реакции замедлены, но полвека — достаточный срок, чтобы мир ощутил боль от этой бесконечной потери.**

Трагическая судьба для поэта почти всегда неизбежность, а талант — приговор. Кому, как не ей, было это знать. Вечная «белая ворона», которую не всегда понимали даже самые близкие, была ли она счастлива? Была, как бывает счастлив настоящий творец, который создал нечто и увидел, что это хорошо. Была, несмотря на ею самой сказанное: «Между полнотой желаний и исполнением желаний, между полнотой страданий и пустотой счастья мой выбор был сделан отродясь и дородясь». Этими словами она не от счастья отрекалась, а от его общепринятого понимания, упрощенного обобщения, против которого восстает любая настоящая личность.

Не много везения было в сложной судьбе Марины Цветаевой, но первоначальная, бесспорная удача — ее семья. Отец, Иван Владимирович Цветаев, профессор Московского университета, позднее — директор Румянцевского музея и основатель Музея имени Пушкина. Мать, талантливая пианистка, которая хорошо знала и очень тонко чувствовала музыку. Только умерла она очень рано, когда Марине было четырнадцать лет. Строгая и подчеркнуто духовная жизнь в доме — вот та атмосфера, которая формировала ее сильный и самостоятельный характер. Писать стихи начала в шесть лет, причем сразу на трех языках — русском, французском, немецком. В шестнадцать одна поехала в Париж, где в Сорбонне прослушала курс старофранцузской литературы. Первые сборники, признание, Коктебель, любовь — все это было до того момента, который поделил на «до» и «после» жизнь целой страны.

«А знаете, Пастернак, вам надо писать большую вещь», — пишет ему Марина в 1923 году. Думал ли про нее Борис Леонидович, когда писал роман «Доктор Живаго», кто знает? Но она оказалась одной из тех, про кого эта книга — песчинкой, подхваченной ударной волной революции, личностью, судьбой которой так несправедливо распорядилось время, история, люди... «Я сама выбрала мир нелюдей, что ж мне нарекать?»

Кто сказал, что ад — там? Он — здесь, на земле, в обыкновенной комнате, где матери приходится делать сознательный выбор между двумя детьми — кому из них остаться в живых, а кому — умереть. Когда после революции в Москве начался голод, Цветаева отдала двух своих дочерей Алю и младшую, Ирину, в приют, потому что там детей хоть чем-то кормили. Потом Аля заболела, и мать забрала ее домой. «Спасти обеих я не могла, — писала Цветаева, — нечем было кормить, я выбрала старшую, более сильную. И однажды в очереди за содой — мыла в Москве не было, я узнала от бабы, что Ирину накануне похоронили... На могилу я не поехала, не могла оставить больную Алю». И потом: «Живу со сжатым горлом, на краю пропасти».

Революционная Россия выдавила Цветаеву из себя, вытолкнула, как инородное, ненужное тело.

Тогда в мае 1922 года Марина получила разрешение вместе с дочерью Алей уехать за границу к мужу, Сергею Эфрону, о судьбе которого она ничего не знала целых четыре послереволюционных года. Берлин, Прага, Париж оказались для Цветаевой каторгой. «Надо мной здесь люто издеваются, играя на моей гордыне, моей нужде и моем бесправии. Нищеты, в которой я живу, вы себе представить не можете. Муж болен и работать не может. Дочь вязкой шапочек зарабатывает 5 франков в день, на них вчетвером (у меня сын 8-ми лет, Георгий) живем, то есть, просто медленно подыхаем с голоду». Эмиграция ее не приняла, чужой она чувствовала себя в послереволюционной России, чужой она оказалась и здесь.

*Мне совершенно все равно —*
*Где совершенно одинокой*
*Быть...*
*В Чехии она полюбила.*
*Точно гору несла в подоле —*
*Всего тела боль!*
*Я любовь узнаю по боли*
*Всего тела вдоль.*

Об этом известно мало, судьба их развела. Человек, которого любила Марина, сберег ее и свое чувство: он никогда не дал ни одного интервью, ни в одном журнале не напечатал ни строки об их отношениях.

«Никогда не говорите, что так все делают: все всегда плохо делают, если так охотно на них ссылаются. У «всех» есть еще одно имя — никто, и совсем нет лица — пробел. Ну а если вам скажут: «Так никто не делает (не одевается, не думает и т.д.) — отвечайте: «А я — кто!» Да, Марина Цветаева была — кто. Ей никогда не было просто — ни в жизни, ни в стихах. Хотя, когда читаешь ее, в это не верится: такие легкие и ладные строки, так исключительно точно найдено место каждому слову. Ее стихи — не конструкции, они — отливки, цельные и неделимые, инстинктивно угаданной единственно возможной идеальной формы. Откуда это? «Любая строка — сотрудничество с «высшими силами»... А как же иначе, если «...живя со стихами с... да с того времени, как родилась! — только этим летом узнала от своего издателя, что такое хорей, что такое ямб, дактиль. Я живу — и значит, пишу — по слуху, э.зн. на веру, и это меня никогда не обманывало». Ее поэзия была женской, но не женственной — написанной твердой мужской рукой. Она никогда не была (и сама себя не назвала) поэтэссой. Только — поэт.

Каким потрясением для нее было узнать, что ее муж, белый офицер Сергей Эфрон, еще в России был завербован НКВД! В 1937 году он и дочь Аля получили разрешение вернуться в СССР. Неудачный год они выбрали для возвращения на Родину. Больше Цветаева их не видела. В 1939 Марина Ивановна с сыном Георгием последовала за ними. Первое время было совсем плохо. Чтобы выжить, гениальной Цветаевой пришлось работать посудомойкой в Доме литераторов, да и это место ей даровали, как милость, после настойчивых просьб Пастернака. Она сгребала объедки за придворными литераторами, которые в отличие от нее умели находить рифмы к нужным фамилиям. Что поделать, в словарном запасе Марины Ивановны попросту не было слов, которыми пишут такие стихи. Попытка издать сборник собственной поэзии оказалась неудачной — стихи забраковал внутренний рецензент издательства. По свидетельству литературоведа Евгения Тагера, чтобы Цветаева могла хоть как-то существовать, «вначале ей давали переводить Важа Пшавела, а затем уже второстепенных белорусских, еврейских поэтов».

Однажды утратив свою «экологическую нишу», она уже никогда не смогла найти себе места — ни в Чехии, ни в Париже, ни в сердцах тех, кого любила. Ни в Елабуге. Почему Цветаева покончила с собой? Что было подлинной причиной ее поступка? Об этом можно только догадываться. Ее сестра Анастасия убеждена: «Марина ушла, чтобы не ушел Мур». Муром звали ее сына Георгия, домашнее имя произошло от сокращенного «Мурлыка». Отношения между матерью и сыном не складывались катастрофически. По словам окружающих, Марина Ивановна любила сына рабски. Она прощала ему все, он же перестал звать ее матерью, только «Марина Ивановна». По воспоминаниям тех, кто видел его, красивый Мур производил впечатление очень холодного человека. Мать в его десять лет, после похвал уму и познаниям, записала: «Душевно неразвит». В пылу ссоры сын крикнул ей: «Ну, кого-нибудь из нас отсюда вынесут вперед ногами». Анастасия Цветаева считает, что ее сестра сознательно пошла на смерть для того, чтобы сыну не пришлось делать выбор. Это ее право — иметь свою версию. Рискнем предложить иную. Возможно, такой шаг определило то, что у Марины Цветаевой просто от рождения была совсем другая, не такая, как у всех вокруг, группа крови. И попытка приспособиться к жизни и людям, которая длилась всю ее жизнь, в конце концов закончилась полным крахом. В последнем своем письме она попросила сына: «Если когда-нибудь увидишь Сережу и Алю — скажи им, что я любила их до последней минуты». К этому времени мужа уже не было в живых, а дочь Ариадна была в лагере. Она так ни разу и не съездила в город, который стал для ее матери последним: «Так знайте же: я никогда не поеду в Елабугу. Мамы там для меня нет», — писала она своей тетке Анастасии. Та ответила Але: «Как жаль, что у твоей матери были такие необыкновенные дети: сын не был на похоронах, дочь никогда не поедет на могилу. Лучше было бы ей иметь обыкновенных детей, которые принесли бы ей на кладбище полевых цветов...»

Бесконечно деликатная в жизни, Марина Ивановна оказалась такой же и в смерти. Чтобы не портить людям дом, в котором им еще жить, она нашла гвоздь в сенях, а чтобы сын или вернувшиеся хозяева не испугались, увидев через окно висящее тело, занавесила стекло куском материи. Дверь замотала веревками: если закрыть на запор, его придется ломать, хозяева — люди бедные, в военное время достать запор будет трудно...

*...А может, лучшая победа*
*Над временем и тяготеньем*
*Пройти, чтоб не оставить следа,*
*Пройти, чтоб не оставить тени...*

От Цветаевой не осталось даже могилы. Отец писателя Вадима Сикорского, который жил в это время в Елабуге, спустя много лет сказал: «Все мы тогда были в таком состоянии в этой эвакуации... Ничем не отметили могилу — даже цветов не принес никто из нас, — это ужасно...» Анастасия Цветаева, которая смогла поехать в Елабугу лишь в 1960 году, найти могилу сестры уже не смогла. На кресте, закопанном между четырьмя безвестными могилами 1941 года она прибила табличку: «В этой стороне кладбища похоронена Марина Цветаева, род. в Москве 26 сентября ст.ст. 1892, + в Елабуге 31 августа 1941 года».

За много лет до своей смерти в «Тарусских страницах» Цветаева написала: «Если мне суждено умереть в другом месте, я хотела бы, чтобы на одном из тарусских холмов... мне поставили камень из тарусской каменоломни с надписью: «Тут бы хотела лежать Марина Цветаева». Сегодня ее пожелание исполнено.

Была ли каким-то образом Цветаева связана с Беларусью? При жизни — лишь переводами стихов белорусских поэтов. После смерти — могилой своего единственного сына, того самого Мура. После смерти матери он уехал в Ташкент, где его опекала Анна Ахматова. Потом вернулся в Москву и поступил в Литературный институт. Девятнадцать лет ему исполнилось 1 февраля 1944 года. Мура призвали в армию. В своем последнем письме тетке Анастасии он написал: «Мне надоела снотворная работа полкового писаря, и я на днях выступаю с маршевой ротой... Моя звезда стоит высоко, я верю в мою судьбу». Его последний бой был 7 июля 1944 года. Впервые сведения о Георгии Эфроне, Муре, появились в журнале «Неман», N 8 за 1975 год. И лишь в 1978 году было установлено место захоронения сына Марины Цветаевой. Оно находится близ деревни Друйка Браславского района.

Марина как-то говорила сестре Анастасии: «Понимаешь, (друзья) жалели за то, что я, пиля дрова, себе прорезала платья. За платья жалели! Не за время, которое я тратила на дрова, у стихов отнятое! И вы многие — стоя жалели и сокрушались, глядя на мой хаос, на всю мою жизнь, вместо того, чтобы взять из рук пилу — попилить, пока я допишу акт одной из моих пьес». Это было с поэтами и до, и после нее: чем более возвышенными были стремления, мысли и чувства, тем настойчивее судьба окунала в быт. Возможно, именно на острие этого неразрешимого противоречия и рождалась провидческая способность «знаться с будущим в быту». Поэты — любимые дети Бога, может, потому они так часто в своей земной жизни проходят крестный путь, искупая наши грехи. Но, как любимых детей, Господь выслушивает их первыми и ответы дает быстрее...

«Моим стихам, как драгоценным винам, настанет свой черед». Настал ли он? С годами в стихах «болярыни Марины» (как она сама себя звала), как в выдержанном вине, находишь все больше новых красок и оттенков. В стихах сильной женщины, которой хотелось быть слабой, и которой так и не предоставилась такая возможность. ■



Дом в Елабуге, в котором завершила жизненный путь Марина Цветаева



Марина Цветаева с сыном Георгием (погиб в 1944 году в боях на Браславщине)

**ВЫСТАВЫ**

## Канфедэраты наладзілі рыцарскую выставу

**Марат ГАРАВЫ**

У Нацыянальным музеі гісторыі і культуры ў Мінску адкрылася выстава «Рыцары Вялікага княства Літоўскага». Арганізатарамі творчай акцыі выступілі музей і канфедэрацыя рыцарскіх клубаў «Рыцары Вялікага княства». Экспазіцыя складаецца з 9 даспехаў, якія максімальна адпавядаюць узорам XV-XVI стагоддзяў або з'яўляюцца дзеючымі мадэлямі. У прыватнасці, вага і таўшчыня металу даспехаў, выробленых удзельнікамі клубаў на ўласныя сродкі ў свабодны ад работы час, адпавядаюць параметрам вырабаў, меўшым месца ў гісторыі. На выставе таксама прадстаўлены фатаграфіі, якія адлюстроўваюць дзейнасць клубаў канфедэрацыі.

Гэтая творчая акцыя з'яўляецца першай спробай музея і канфедэрацыі аднавіць і данесці да наведвальнікаў рамантычную частку сярэдневяковай гісторыі Беларусі, звязаную з рыцарамі і іх даспехамі. Адной з мэтаў выставы з'яўляецца папулярызацыя рыцарскага руху. У апошняе дзесяцігоддзе ён распаўсюдзіўся ў Беларусі, што тлумачыцца жаданнем выкарыстаць лепшыя рыцарскія традыцыі ў справе выхавання моладзі. Арганізатары акцыі перакананыя, што экспанаванне маладаследаваных матэрыялаў выкліча цікавасць у наведвальнікаў, у тым ліку і вучоных.

Выстава працягнецца да 9 студзеня.

Даведка БелаПАН. Канфедэрацыя рыцарскіх клубаў «Рыцары Вялікага княства» з'яўляецца пакуль не зарэгістраваным грамадскім аб'яднаннем, у якое ўваходзяць рыцарскія клубы «Княжы Гуф» (Брэст), «Берасцейская харугва» (Брэст), «Жалезны воўк» (Полацк) і «Дайнава» (Ліда), якія вывучаюць сімволіку і гісторыка-культурную спадчыну залатога веку ВКЛ — XV-XVI стагоддзяў.

У плане работы канфедэрацыі ў 2001 годзе — пасвячэнне ў рыцары, у якім возьме ўдзел прамы нашчадак магнацкага роду Радзівілаў, прадстаўнік яго польскай галіны з Варшавы; удзел у інсцэніроўцы Грунвальдскай бітвы 15 ліпеня 1410 года ў Альштынскім ваяводстве Польшчы і ў II фестывалі сярэдневяковай культуры ў Навагрудку. ■

БелаПАН

